
Іспанка з АБ-БАй → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Віншуем з Калядамі!

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 52 (3163) Год LXI | Беласток, 25 снежня 2016 г. | Цана 4,00 зл. (у тым VAT 5%)


# Роднае слова пакаленняў

Размова з **Андрэем Сцепанюком**, дырэктарам Бельскага белліцэя, паэтам.


Фота Міры ЛУКШЫ

**Міра Лукша:** — ***«Бязмежжа», на якім сустракаемся ў 19 раз, інспіравала і прыносіла плён у выглядзе новых ідэй, абгрунтаванняў, часопісаў, кніг. Сёлета выйшла Твая першая кніга. Для каго неспадзявана, а хто спадзяваўся такога Твайго позняга кніжнага дэбюту. З вялікімі эмоцыямі прадставіў кнігу Яўген Вапа, якога вялікай справай было выданне Тваёй кнігі ў юбілейны год «Нівы»— супольнай справы другога пакалення — «дзяцей» «Нівы». І засталіся ўсе мы вернымі беларускасці, беларускаму слову.***

**Андрэй Сцепанюк:** — «Ніва» нас стварыла, але я буду гаварыць пра сябе. У літаратуры яна нас стварыла. Мы яе чыталі. Адначасова кожны з нас у ёй дэбютаваў. Памятаю свой дэбют, даволі смешны, таму што быў гэта дэбют лянівага чалавека. Калі настаўніца беларускай мовы загадала нейкую працу, я дайшоў да вываду, што навошта мне многа пісаць — лепш напішу верш. Праўда, гэтая рыфмаванка нічога не мела супольнага з паэзіяй ці літаратурай; пасля была прапанова пасляць яго ў «Парнасік». Гэтая калонка была ў «Ніве» заўсёды. І недзе ў канцы сямідзясятых ці ў пачатку васьмідзясятых, з'явіўся той верш. Хачу зазначыць, што гэта дзіўна, калі чалавек, якому споўнілася ўжо 53 гады, выступае сёння як дэбютант. Бо гэта мой чарговы дэбют. Бо мяне стварыла і вярнула ў літаратуру таксама «Бязмежжа», на якім маю прыемнасць бываць у апошнія гады. Таму я ўдзячны перш за ўсё Яўгену, што ён мяне запрасіў; шкадую, што няма тут з намі Барыса Пятровіча Сачанкі, які ўвёў мяне ў агульнабеларускую літаратуру. Мае вершы апынуліся ў «Дзеяслове». Ёсць адна беларуская літаратура ў гэтым выдатным незалежным літаратурным часопісе. Цешуся, што ў чарговым нумары «Дзеяслова» зноў паявіліся вершы Касі Сянкевіч, асобы з наступнага пакалення «бязмежных» «ніўцаў». Дарэчы, гэты год для мяне незвычайны — на пачатку быў званок: „Ты намінант да «Залатога апострафа» ў «Дзеяслове»!". Для мяне гэта быў вялікі шок. Гэта за вершы, якія я апублікаваў у 2015 годзе. Гэта вялікі гонар апынуцца сярод такіх тузоў беларускай паэзіі і быць прынамсі намінантам да гэтай прэміі... Сёння з маёй вокладкі гляну на чытача мае вочы.

***— Як адзначаеш, зборнік стваралі... чатыры асобы.***

— Мая роля была самая прыемная, і для мяне найменш значная, бо я вершы пісаў ужо даволі даўно. Калі б не Яўген Вапа, рэдактар гэтага зборніка, зборніка не было б. Напісаў ён таксама ўступ да тома, вельмі паэтычны, бо ён таксама паэт. Па-першае, Яўген выканаў вялізную працу — ён складаў і надаў яму, супольна, загаловак — «Распісаны квадрат». Пабачыце яшчэ, як ён падрыхтаваны да друку Юркам Асеннікам. Яўген сабраў былі нас і сказаў, што над зборнікам будуць працаваць асобы, якія будуць яго чытаць і адчуваць. Гэта для мяне вельмі важнае.

***— А чацвёртая асоба?***

— Гэта Павел Грэсь...

***— З трэцяга пакалення ніўцаў, выхаванец «Зоркі»...***

— Ён меў заданне страшэннае... Яму трэба было... зрабіць мне здымак! Мы паездзілі з Паўлікам некалькі гадзін; ганяў ён мяне па палях і лугах: «адкрый вочы, адкрый вочы!».

***— Павел далучыў таксама да зборніка асобны здымак, на якім Ты з бацькамі і з братам. Ён мае вялікае значэнне.***

— Я сабраў у зборніку вершы, якія здарыліся мне пісаць некалькі дзясяткаў гадоў. Гэты мой першы зборнік ёсць, наступны будзе праз... 53 гады. Варта жыць, мне прынамсі ☺. Гэта мусіць быць пачатак чагосьці новага.

***— Твая паэзія пакінула моцны след на пакаленні, цяпер ужо сталым. Твае вершы я маю ў сваім сшытку твораў найбольш кранаючых мне душу ў тадышнім маім юнацтве і маладосці. Не забудзецца Твой верш напісаны на сотую гадавіну Алеся Гаруна «Не плач Айчына», да якой музыку склала Эля Бэзюк. Мы спявалі яе. Гэта гімн не аднаго беларускага пакалення.***

— Гэта сапраўдны мой дэбют — быў у «Сустрэчах». Верш на сотую гадавіну з дня нараджэння Гаруна. Ён і паявіўся ў «белавежскай» кніжцы — зборніку маладых аўтараў «Мае песні табе дару».

***— Там былі творы, між іншым, і Марылькі Базылюк, і самога Яўгена Вапы.***

— Былі таксама ў бела-чорным альманаху «Белавежы»; там чытаў я таксама і Твае карацелькі. Усе мы былі тады такія маладыя. Я скончыў беларускую філалогію. Напачатку быў выхавацелем у бурсе — тры гады, тры гады — у ліцэі, а пасля пайшоў на восем гадоў на бургамістра ў Бельску-Падляшскім, выбраны ад беларускага асяроддзя. Пасля вярнуўся зноў у ліцэй.

***— Ці вучні, для якіх Ты — дырэктар школы, ведаюць, што Ты — паэт?***

— Думаю, што гэта выклікае вялікую зацікаўленасць. Некаторыя, як даведаліся, што я выдаў зборнік, і падарыў яго ім, асабліва Мадзі Маліш — дык тая сказала, што больш нічога не будзе рабіць, толькі чытаць вершы ☺. Вось прыходзяць да мяне дзяўчаты, каб я пісаў словы песень для нашага гурта з ліцэя. Напісаў я два беларускія вершы да іх песень.

***— А як Табе здаецца, чаму гэты колішні пітомнік беларускай літаратуры у Польшчы заціх, змарнеў, ці выскахла нейкая крыніца? Ці можа маеш якісьці план, каб яны зварухнуліся ў творчым сэнсе?***

— Ніколі не зробіш паэта насілу! Калі хтосьці не будзе мець творчага натхнення і не будзе моцна хацець пісаць. Гэта такая праўда. Мы самі дасканала ведаем, чаму мы пачалі пісаць — таму што мы хацелі. Я, пачаўшы пісаць у ліцэі, хацеў проста пісаць. А цяпер у нас, у ліцэі, ёсць такія, што пішуць. Мы нядаўна завяршылі конкурс пра бежанства сярод нашых вучняў. Дзяўчына з першага класа напісала цудоўны верш. Трэба папрацаваць над ім крышку, думаю, што можна будзе падаслаць штосьці ў «Ніву». Ёсць у нас такія, што штосьці там сабе пішуць, трэба толькі крышку ім час ад часу дапамагчы, троху заахвоціць. Не па прынцыпе: хадзеце, будзем пісаць, працаваць — так не трэба гэтага рабіць. Гэта вялікія індывідуальнасці. Ёсць у нас, вось, Мадзя Маліш, асоба, якая піша словы песень для дуэту «Перцэпцыя». Яна стварае песні.

***— Набяруцца маладыя людзі адвагі, каб паказаць свае творы? Думаю, што немагчыма, каб яны не пісалі. Думаю, што патрэбны ім таксама нейкі ментар.***

— Гэта справа вельмі індывідуальная. У нейкі спосаб трэба даць ім шанц, і нейкі такі невялікі штуршок.

***— Я памятаю час, калі маімі ментарамі і амаль роднымі людзьмі былі ў Беластоку Сакрат Яновіч ці Юрка Геніюш, якія не дазволілі мне прапасці ў польскім і чужым моры, мне, маладой асобе, і прыцягнулі да «Белавежы» і «Нівы». І не была я самотнай, і кніжкі мела... Былі яны таксама мне як бацькі, калі я страціла ў маладых гадах бацьку.***

— Я свайго страціў сорак гадоў таму. У 1976 годзе. Мне было 13 гадоў. Гэта адбілася на ўсім маім жыцці. Гэта відаць і ў маіх вершах, і ў нармальным жыцці. Гэта быў найгоршы момант, калі можна страціць бацьку, калі ён вельмі патрэбны. Гэта мела ўплыў на маё жыццё. Я ад гэтай хвіліны стаў іншым чалавекам. І да гэтага заўсёды вяртаюся, бо гэта жыве ўва мне. У пачатку верасня ад таго часу мінула сорак гадоў.

***— Адтуль і канцэпцыя таго адзінокага, асобнага здымка, на якім Ты з татам...***

— Гэта больш была задума Юркі Асенніка, калі ён узяў і прачытаў мае вершы. Гэта ён з гэтым выйшаў. Да таго прыйшлі і Яўген, і Паўлік. Гэты зборнік так выпрацоўваўся. Я напісаў вершы, яны іх так прынялі, і задумаліся, і адчулі. Гэта таксама мне вельмі важнае. Я Паўлу Грэсю, падпісваючы том, напісаў, што ён — суаўтар гэтага зборніка.

***— Няхай і чытачы, адчытваючы Твае творы, адчуюць іх і няхай яны адзавуцца ў іх душах і думках па-свойму, пароднаму. Дзякуем за размову!***

Размаўляла **Міра ЛУКША**





# Пра мову і школу

У 1991 годзе пасля сканчэння ўніверсітэта мне, гісторыку паводле адукацыі, давялося выкладаць у адной гарадзенскай школе беларускую мову і літаратуру. Прычына была ў тым, што ў дзяржаве ішла беларусізацыя і спецыялістаў выкладання роднай мовы востра бракавала. У той час у розных дзяржаўных установах ладзіліся розныя курсы беларускай мовы. Давялося і мне весці такі адмысловы курс для супрацоўнікаў і работнікаў гатэльнай гаспадаркі дзвюх гарадзенскіх гасцініц — „Беларусь" і „Гродна". Трэба сказаць, што гэта была ўдзячная праца, бо за некалькі месяцаў выкладання такіх курсаў і заняткаў ні разу не давялося сустрэцца з праявай нейкага непрымання і тым больш абурэння. Наадварот — жывая цікавасць і натуральны інтарэс. У краіне ішла сапраўды мяккая і паэтапная беларусізацыя, грамадзянам вярталася родная мова, якую нішчылі стагоддзямі. Праз паўгода ўсе інфармацыйныя таблічкі ў згаданых гатэлях былі ўжо па-беларуску, а персанал вольна валодаў размоўнай мовай у межах сваёй спецыяльнасці. Паралельна мова натуральна прышчаплялася і развівалася ў дзіцячых садках, пачатковай школе. Калі я ўжо працаваў у музеі, нашымі супрацоўнікамі былі падрыхтаваны адмысловыя тэмы, з якімі мы выязджалі ў садкі і школы, расказвалі пра нашу сімволіку — герб і сцяг, слуцкія паясы, старажытныя замкі, шматканфесійныя храмы, нацыянальных герояў і іншае. У выніку некалькіх гадоў адраджэння мовы тытульнай нацыі на 1994 год з 30 гарадзенскіх школ палова стала беларускамоўнымі, спакваля і ў вышэйшых навучальных установах прыжывалася дзяржаўная беларуская мова. Ну а потым прайшлі выбары першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, яшчэ, менш чым праз год, адбыўся антыканстытуцыйны пераварот, услед ганебны рэферэндум, які ўсталяваў заканадаўча другую дзяржаўную мову і фактычна забараніў нацыянальную сімволіку. Пасля гэтага пачалася сістэмная дыскрымінацыя беларускай мовы і татальная русіфікацыя ўсіх адукацыйных і іншых дзяржаўных устаноў, ліквідацыя беларускамоўнай тэлевізіі. Асабліва мэтна гэты працэс вёўся ў Гродне. **На сёння ў горадзе над Нёмам з 43 школ, ліцэяў і гімназій няма аніводнай (!) беларускамоўнай.** Дакаціліся, што называецца, да краю. Усе спробы грамадскіх актывістаў і некаторых бацькоў прывялі толькі да стварэння адзінкавых малакольказных беларускіх класаў, якія паўнавартаснымі назваць цяжка. Хутчэй гэта нейкія маленькія рэзервацыі. У вышэйшых навучальных установах яшчэ горш — з іх выкінутыя амаль усе беларускамоўныя выкладчыкі, а ровень навучання, асабліва на гуманітарных факультэтах, апусціўся ніжэй плінтуса. Найбольш здольная і перспектыўная моладзь пасля сканчэння школ масава выязджае на навучанне за мяжу — у Польшчу, Вялікабрытанію, ЗША, іншыя краіны. Да гэтага прывяла ўся дзяржаўная палітыка.

Чаму ж людзі не аддаюць сваіх дзяцей у беларускамоўныя класы? Зараз нібыта аддзелы адукацыі не супраць іх стварэння, а вось заяў — мізэрна. Неаднаразова мне даводзілася выступаць на школьных сходах перад бацькамі — слухаюць вельмі прыязна, аніводнай рэплікі супраць беларускай мовы, нават пляскаюць у далоні. І ў выніку — нуль заяў. Чаму? А таму, што бацькі глядзяць на гэтую справу надзвычай прагматычна і адчуваюць фальш улады. Бо куды пойдуць іх дзеці пасля сканчэння беларускамоўнага класа сярэдняй ва ўсіх сэнсах школы — у нікуды! Вось, каб дзяржаўная адміністрацыя абвясціла набор у беларускамоўныя класы ў адной-дзвюх прэстыжных гімназіях горада — гэта б азначала істотныя змены, а не імітацыю. І ніякай агітацыі не спатрэбілася б тады. Запэўніваю — заявы ад бацькоў пасыпаліся б і за адзін год стварылася б некалькі паўнавартасных класаў. Тым больш — у гарадскім грамадстве зараз узнікае гэткая мода на ўсё беларускае, што пацвярджае і папулярнасць розных моўных беларускіх курсаў. Але ж чыноўнікі-русіфікатары пад кіраўніцтвам спецслужбаў насамрэч мяняць нічога не хочуць альбо баяцца.

Але тыя чыноўнікі, якія стаяць на самай вяршыні ўлады, павінны разумець, што калі яны не возьмуцца за адраджэнне беларускай мовы, культуры, адукацыі, іх чакае не толькі ганьба праз дзесяцігоддзі, але бясслаўны канец. Бо той „русский мир", глебу для якога яны так дбайна рыхтуюць, калі сюды прыйдзе — будзе да іх асабліва бязлітасным.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# 1984 год



*(Хто кантралюе мінуўшчыну (...) у яго руках будучыня; хто кантралюе цяперашняе, у яго руках мінулае.* Усе знакі ў нябёсах і на зямлі паказваюць, што ў польскім календары будзе рэвалюцыя; рэвалюцыя, пра якую не снілі калі-небудзь нават ленінскія бальшавікі. Вось пасля няшчаснага, можа нават нэндзнага 2016 года прыйдзе наступны год... 1984. Шчаслівы оруэлаўскі год. Або, хто ведае, калі не ўся оруэлаўская эпоха. Гэта праўда, што ленінскія бальшавікі перафарматавалі актуальны ў Расіі каляндар, па сваім капрызе. Іх прэсавы орган патлумачыў гэта дыялектычнай неабходнасцю. У інтэрпрэтацыі «Праўды», праўда была такой жа расплывістай канцэпцыяй, як факты. Не было такой хлусні, якая не была б ператорана ў ісціну, а верагоднасці ў факты. Спачатку рабіўся на праўдзе такі семантычны аналіз, а затым, склаўшы яе семы назад, як раскіданыя пазлы, дыялектычна выходзіла яна на больш высокую ступень — сапраўдную праўду. *Разбурэнне слоў — якая прыгожая справа! Найбольш, вядома, выкідваецца дзеясловаў і прыметнікаў, але і сотні назоўнікаў таксама цалкам непатрэбныя. Выкідваем не толькі сінонімы, але і супрацьлеглыя словы. Таму якi сэнс існавання маюць словы, сэнс якіх прама процілеглы іншым? Кожнае слова змяшчае ў сабе сваю супрацьлегласць. Возьмем, да прыкладу, прыметнік «добры». Калі маем «добры», дык нашто нам прыметнік такі як «дрэнны»? «Бяздобры» хопіць цалкам; нават настолькі ён лепшы, што з'яўляецца поўнай супрацьлегласцю прыметніка «добры», чаго нельга сказаць пра «дрэнны». (...) На працягу доўгага часу, паняцце дабра і зла будзе абмежавана ўсяго да шасці слоў, і на самой справе да аднаго.* Ці яе скажоным па-філасофску духам кіраваліся французскія рэвалюцыянеры, якія цалкам пазмянялі ў адпаведнасці са сваёй логікай назвы месяцаў, адмянілі месячны падзел на чатыры тыдні, сціскаючы іх да трох дэкад, пачатак года вызначаючы на асеннікае раўнадзенства? Як было, так было. А як ёсць? Калі пачатак года, усталяваны адвольна французскімі «рэвалюцыянерамі» можа пачацца ў верасні, чаму ў наступным годзе — пад самаўпраўным кіраваннем ПіС — не назваць яго 1984? Я выразна памятаю, як у мае школьныя дні спявалі мы, маленькія дзеці, аб Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, якую, як мы чытаем у падручніках, зрабілі ў лістападзе. Да гэтага часу я не ведаю — у каго верыць, асабліва калі Каляд — ці ў святога Мікалая, ці ў Дзеда Мароза? Можа быць, гэта праблема ўсяго майго пакалення, якое вырасла на дыялектычным двухмысленні, пэнэраўскім рэлятывізме, якога крайнім прадстаўніком з'яўляецца Яраслаў Качынскі, стваральнік новага навамоўя, на жаль... Навамоўе, у рэшце рэшт, залежыць ад разбурэння старога Слоўніка. Новы Слоўнік і будуе новую Гісторыю. *Усю гісторыю пераварылі ў палімпсест, здрапваны і надпісваны так часта, як гэта лічыцца неабходным.*

Ужо некалькі гадоў таму кранула мяне дрэннае пачуццё, калі старшыня ПіС унёс баявіта ў дыскусію — больш медыйную, чым публічную — свой своеасаблівы гратэскавы жаргон. Усе тыя выказаныя ім, і не здрыганўшыся, «шчырыя праўды», «відавочныя відавочнасці» моцна ўстрывожылі маё сэрца. Тады ён прыдумаў лозунг «Польшча ў руінах». І толькі пасля таго паняцце праўды найвышэйшай, тае смаленскае... Ударыла мяне недарэчнае пачуццё, і тым не менш рэальнае, што недзе я гэта ўжо чуў, прачытаў, збольшага асабіста выпрабаваў. Гэта было ў перыяд, сёння здаецца, што старадаўні, калі кіравала ГП, якая цярпліва з ртутным тэрмометрам у руцэ трымала палітычныя дзяжурствы ля крана з вадой. Час ішоў сабе, і плыла цёплая вада з крана. Я забыўся пра страх. Толькі тады, калі тэрмометр нейкім чынам разбіўся аб кран і выцякла з яго атрутная вадкасць з нявызначаным смакам, я вярнуўся да прачытання трохі забытага сёння Джорджа Оруэла. Ягоны «1984 год» гэта антыўтапічная ўява асаблівага характару. Яна спрацоўвае. Цяпер. Там знаходзім такі ўрывак: «Кожная канцэпцыя можа быць выказана толькі адным словам з канкрэтным значэннем, а сэнс усіх пабочных значэнняў будзе сцёрты і забыты. (...). З году ў год будзе менш слоў і больш вузкі дыяпазон свядомасці. (...) Гэта толькі пытанне самадысцыпліны, рэгулявання фактаў. Але ў рэшце рэшт, гэты метад стане лішнім. Рэвалюцыя канчаткова пераможа, калі мова дасягне дасканаласці». Мова, — дадам, — балбатлівая навамова-тарабаршчына, якую мы маем сёння ў канчатковым лішку. Ці рэвалюцыя, Дарагі Чытач, канчаткова пераможа?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Біблія Скарыны

## — будучыня даўніны

Шаноўныя чытачы, чарговы год завяршае сваё ўладаранне. Стрэлкі гадзінніка з кожнай хвілінай набліжаюць нас да новага 2017 года. З новымі спадзяваннямі і надзеямі на лепшае ўвойдзем у першыя студзеньскія дні. Сапраўды, трэба гаварыць пра надзею на спакой і грамадскапалітычную стабільнасць, з якой у свеце не найлепш. Часам складаецца ўражанне, што некаторыя палітыкі так ужо ачмурэлі ад уладарання, што не памятаюць, што перш за ўсё павінны яны служыць людзям. А так, на жаль, прывіды вайны не з'яўляюцца толькі выдумкай, а становяцца нашай ужо рэальнасцю. Вірус нейкага шаленства адбірае розум, здаецца на першы погляд, нармальным людзям. Падзеі апошняга тыдня ў Польшчы паказваюць як можна падбухторваць настроі грамадства, прытым, на жаль, занадта не задумваючыся над трывалымі паслядоўнасцямі грамадзянскага канфлікту. І хочам мы гэтага ці не, але жывучы ў медыйным хаосе, не знаходзім вакцыны на тую заразу. Куды пакоціцца свет у бліжэйшым новым годзе, гэта адно з тых пытанняў, на якое адказ знайсці вельмі цяжка.

Таму так важным з'яўляецца шуканне пазітыўных спраў, на якіх можам выбудоўваць сваё апірышча як асабістае, так і нацыянальнае. Адыходзячы год быў для нашай рэдакцыі годам юбілейным — 60-годдзя «Нівы». Дзякуем усім Вам, нашым чытачам за тое, што Вы надалей застаяцеся з намі. Часта прыходзіцца чуць мне пытанні, як можам Вас павіншаваць у сувязі з нашым юбілеем. Мой адказ, але адначасна і просьба толькі адна: падпішыцеся на наш тыднёвік, або кожны тыдзень яго проста купляйце. У шаленстве пакупак наваго дне-святочных падарункаў падпіска на «Ніву», думаю, будзе элегантнай формай абдорвання сваіх родных. Роднае слова — родным.

Асаблівага значэння набірае наступны год у кантэксце святкавання 500-годдзя друку на старабеларускай мове Бібліі Францыска Скарыны. Выданне Бібліі ў 1517 годзе на роднай мове абазначала для народа ягоную цывілізацыйную сталасць і пісьменнасць. **Друкаваная беларуская Біблія Францыска Скарыны — чацвёртая ў свеце, выдадзеная на жывой мове народа (пасля нямецкага, італьянскага і чэшскага перакладаў). Была яна першай сярод усходне- і паўднёваславянскіх народаў. Значна апярэдзіла першае польскае выданне 1563 года. Французскія і англійскія пераклады таксама з'явіліся потым. Псалтыр Скарыны пабачыў свет на 30 гадоў раней да першай друкаванай кнігі на літоўскай мове і 47 гадоў — на расейскай мове.**

Таму наш ніўскі каляндар прысвечаны гэтай векапомнай даце ў жыцці беларусаў. Як штогод, афармленнем календара займаецца знакаміты мастак Міраслаў Здрайкоўскі. Працы яго самога ўпрыгожваюць другую старонку календара. На першай старонцы календара бачым мы прадаўжальнікаў ідэі Скарыны — тых людзей, якія выдаваннем і перакладамі Бібліі займаліся пазней. Бачым там двух выдатных выдаўцоў XVI стагоддзя — Васіля Цяпінскага (злева) і Сымона Буднага (у цэнтры). Далей незабыўнага Лукаша Дзекуця-Малея (ён вышэй з барадою), пратэстанцкага прапаведніка і аўтара перакладу Бібліі ў Заходняй Беларусі, зробленага пры дапамозе Антона Луцкевіча (гэта той чалавек у кажуху). Лукаш Дзекуць-Малей памёр у 1955 годзе ў Гданьску. Ягонае жыццё дэталёва вывучыла Лена Глагоўская. А ў акулярах гэта ВасільСёмуха, народжаны ў 1936 годзе ў суседнім з цяперашняй мяжой Пружанскім раёне, сучасны перакладчык Бібліі на беларускую мову.

А калі маем пераклады, значыць, павінны і яны гучаць ва ўсіх хрысціянскіх храмах, дзе пражываюць беларусы. Таксама і на Беласточчыне. Бо не хто іншы, як менавіта Францыск Скарына, выдаваў сваю Біблію таму, што «(...) от прирождения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя, птици, летающие по воздуху, ведають гнеза своя; рибы, плавающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих, — тако ж и люди, и где зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають».

І мы для зробленага Скарынам вялікую памяць і падзяку маем.

**Яўген ВАПА**

# Іспанка, якая стварае «Беларускі свет»



Ведае больш за 10 моў, аднак дзякуючы беларускай знайшла сябе як пісьменніцу і чалавека. Іспанка Анхела Эспіноса, студэнтка беларускай філалогіі ў Варшаве, была госцем беластоцкага «Склепу з культурай». Мерапрыемства, наладжанае аб'яднаннем АБ-БА, прайшло 15 снежня. Здаецца, усіх Анхела ўразіла не толькі ўзроўнем ведання мовы, беларускай літаратуры, але і сваімі вершамі, якія дачакаліся шматлікіх узнагарод і вылучэнняў у паэтычных конкурсах. Наогул папулярнасць маладой іспанкі ў беларускім асяроддзі даволі высокая. Абгрызаючы скуркі на пальцах і правяраючы фейсбук Анхелы, прабуем асэнсаваць яе тэорыю на ўнікальнасць мовы, якая нам часам здаецца толькі «будняй».

## Анхела з Узбярэжжа Сонца

Анхела Эспіноса нарадзілася ў іспанскай Малазе. Малага з'яўляецца сталіцай рэгіёна Коста-дэ-Соль, значыць Узбярэжжа Сонца. Гэта адзін з найчасцей наведваных турыстамі гарадоў Іспаніі. Тут дарастала, хадзіла ў школу і амаль дзесяць гадоў вывучала ігру на піяніна. Тут таксама паўставалі першыя вершы, якія Анхела пачала пісаць з шасці гадоў. У 15 гадоў атрымала стыпендыю ад амерыканскай дзяржавы, у рамках якой наведала ЗША, будучы запрошанай на семінар для маладых дыпламатаў.

— Тады ўдалося мне пазнаёміцца з людзьмі са шматлікіх краін, — сказала ў час сустрэчы ў «Склепе з культурай» Анхела. — Былі там і беларусы, якія раскпавялі пра сваю краіну, культуру, літаратуру і мову. Зразу ўразіла мяне яе мілагучнасць і адначасова зразумела, што яна вельмі добрая для складання вершаў.

Яшчэ ў школе Анхела пачала самастойна вывучаць рускую мову. Працягваючы свае зацікаўленні, вырашыла паступіць ва ўніверсітэт на славянскую філалогію ў горадзе Грэнада.

— На маё захапленне беларускай мовай значны ўплыў меў мой сябра з Беларусі, які прыязджаў да мяне ў госці, — кажа Анхела.

Сур'ёзныя планы адносна будучыні з беларускай мовай Анхела пачала складаць пасля 2010 года. Падзеі, якія суправаджалі прэзідэнцкія выбары на Беларусі, моцна яе ўразілі. Так нарадзіўся тэкст, які трапіў у кнігу «Беларусы ў фокусе: вачыма міжнародных журналістаў». Падчас узнагароджання ў Варшаве Анхела пазнаёмілася з многімі журналістамі.

— Праз гэтых людзей я зразумела адрозненні беларускай мовы ад іншых славянскіх, — успамінае Анхела. — Тады я таксама зразумела, што я палюбіла гэтую мову і ведала, што трэба пазнаць яе, каб зразумець культуру.

## Стаўка на беларускую мову

Моўная сітуацыя на Беларусі была для Анхелы вядомай. Аднак гэта не знеахвоціла яе, толькі стала дадатковым стымулам для далейшай вучобы. Пасля заняткаў ва ўніверсітэце самастойна практыкавалася па беларускай мове. Перш за ўсё Анхела вучылася на творах класікаў. Багдановіч, Купала ці Колас сталі яе першымі «настаўнікамі».

— Я чытала творы ў арыгінале. Таксама завязала віртуальнае сяброўства з беларускамоўнымі людзьмі, — кажа Анхела. — Граматыка беларускай мовы вельмі лагічная, таму не была яна вялікай праблемай.

Анхела, не зважаючы на прагнозы адносна беспрацоўя пасля завяршэння вучобы на факультэце беларускай філалогіі, вырашыла перабрацца ў Варшаву і паступіць на той жа факультэт. На курсе 5 асоб — у тым ліку Анхела — імкнуцца атрымаць пахвальнае званне магістра. Як заўважыла сама, сярод яе сяброў-студэнтаў — усе палякі. Нікога з Падляшша ці Беларусі. Аднак менавіта тут, у Варшаве, Анхела знайшла кола адэкватных сяброў. Адэкватных таму, што, па яе словах, у сталіцы амаль не карыстаецца польскай мовай.

— Варшава вельмі мне спадабалася, — прызнаецца Анхела. — Вядома, сталіца! Пэўна кожны, хто шукае, можа знайсці свой круг людзей, месцаў, з якімі яму добра. І мне пашанцавала настолькі, што беларускай мовай карыстаюся ў трох чацвёртых.







фота з архіва Анхелі Эспіносы

Анхела, як студэнтка беларускай філалогіі, вельмі карпатліва вывучае літаратуру. Хаця гэта не правіла. Кожнаму часам хапае амбіцыі, каб прачытаць кніжку толькі да паловы, пазней мінае тыдзень за тыднем і ўсё-такі застаемся на 243 старонцы, за далёка, каб гэта проста кінуць і ўжо заўсёды гаварыць (пазбягаючы зрокавага кантакту з суразмоўцам): «Так, так прачытала. Але не да канца». А праінвеставаная часова кніжка двоіцца і троіцца ў вачах, блытаюцца імёны і прозвішчы, мяшаюцца даты і дэталі... Не. У выпадку Анхелы такога няма. Складаецца ўражанне, што іспанка ведае ўсе творы, умее прылічыць іх да пісьменніка, эпохі, жанру... Умее таксама вычытаць тое, што недапісанае і дадумацца таго, што недаказанае... Але не патрабуе кідаць прозвішчамі, каб даказаць свае веды, таму што самыя захапляльныя творы, на яе думку, напісаныя ананімнымі аўтарамі. І тут «прадала» цікавінку, што такіх каля сотні!

Пры гэтым усім Анхела сама ўжо стварае паэзію на даволі высокім узроўні. З 2014 года стала членам Саюза беларускіх пісьменнікаў. Апрача таго з'яўляецца фіналісткай конкурсу «Экслібрыс» імя Рыгора Барадуліна 2015 года. На самой справе гэта адзін з яе любімых пісьменнікаў, якому прысвяціла адзін са сваіх вершаў ды перакладае ягоную паэзію на іспанскую мову. У тым жа 2015 годзе ў Мінску апублікавала зборнік вершаў «Раяль ля мора» і электронны зборнік «Памяць пра будучыню». Яе вершы друкаваліся ў часопісах «Маладосць», «Дзеяслоў» ды газеце «Наша Ніва». Уффф...

## Станоўчыя планы

Да гэтай багатай і ўражваючай біяграфіі можна дабавіць асабісты матыў, які таксама вельмі рамантычны і незвычайны. Анхела прызналася, што сустракаецца з хлопцам з Беларусі, які захапіўся ёю праз паэзію. Несумненна веру ў гэта, і не здзіўлюся. І тут заключаецца падказка для дзяўчат, знеахвочаных вывучваннем беларускай мовы: вось варта паглядзець на яе, як на падказку, як прывабіць уражлівага інтэлектуала-беларуса.

Пра Анхелу можна шмат пісаць і, на самой справе, пішацца. Аднак у час сустрэчы ў «Склепе з культурай» вядучы, журналіст Мікола Ваўранюк, зачытаў адзін з яе вершаў, які, па словах аўтаркі, аўтабіяграфічны:

Такая дзяўчына, як ты,  
Павінна гуляць з хлопцамі,  
А не пісаць паэзію.  
Чаго ты сядзіш з гэтымі санетамі?

Такая дзяўчына, як ты,  
Павінна паступіць адразу на медыцыну,  
А не на нейкую філалогію.  
Чаго ты пра будучыню не думаеш?

Такая дзяўчына, як ты,  
Павінна валодаць перспектыўнымі мовамі,  
А не незразумелымі дыялектамі.  
Чаго ты так свой час марнуеш?

Такая дзяўчына, як ты,  
Павінна выйсці за прывабнага, заможнага, здаровага,  
І ніяк інакш, ніяк.  
Чаго ты так кепска іх выбіраеш?

Такая дзяўчына, як ты,  
Павінна адназначна заўжды ўсміхацца,  
Бо грэх не карыстацца прыгажосцю.  
Чаго ты плачаш? Ну?

На пытанне мадэратара сустрэчы Міколы Ваўранюка, чаму ў яе такія бесперспектыўныя выбары, Анхела адказала, што кожнаму сваё:

— Я заўсёды ведала аб гэтым, што я незвычайная, — без штучнай сціпласці сцвердзіла Анхела.— Спачатку я не разумела, чаму так. Вельмі ўдзячная бацькам, якія мяне выхавалі з такімі думкамі, што трэба быць верным сабе, рабіць тое, што робіць цябе шчаслівым, а не кіравацца меркаваннем іншых людзей, грамадства. Трэба шукаць менавіта свой шлях. Марнаваць час — гэта не рабіць таго, чаго просіць сэрца.

Чарговы раз ніяк не можна з ёю не згадзіцца. Хаця той верш — крыху какецтва. На маю думку, цэлы феномен гэтага верша заключаецца ў тым, што аўтарка на тыя ўсе пытанні даўно знайшла адказы. Пытанне толькі ці мы прымем выклік і знойдзем іх таксама.

Варта дадаць, што Анхела з'яўляецца яркім прыкладам на тое, што няварта трымацца рэйтынгаў ці трэндаў, бо можна зрабіць кар'еру па любым напрамку. Анхела шакавала нават маэстра беларускага слова Віктара Шведа, які захапляўся яе свабодай карыстання беларускай мовай. Здавалася яму, што хаця жыве ўжо на гэтай зямлі больш за 90 гадоў, такога яшчэ не бачыў. Стуль яе планы, каб пасля магістратуры вярнуцца на радзіму і там адкрыць кафедру беларусістыкі, цалкам рэальныя. Асобай Анхелы Эспіносы не здзіўляецца толькі Лявон Тарасэвіч, які характэрным яму апатычным тонам сказаў, што ўжо нядоўга «Беларускі свет» будуць ствараць захопленыя беларускай культурай інтэлектуалы (неабавязкова беларусы па нацыянальнасці), бо ёсць чым захапляцца. І, працягваючы думку Лявона Тарасэвіча, магчыма, дзякуючы Анхеле, «Беларускі свет» будзе і ў Іспаніі.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

## Дэмаграфія Чаромхаўскай гміны

Чаромхаўская гміна — адна з меншых у Гайнаўскім павеце (яе плошча 97 квадратных кіламетраў). Яна займае ўсяго 6% яго плошчы. Яе суседнія гміны — Кляшчэлеўская, Мілейчыцкая і Нурэцкая. Мяжуе яна з Рэспублікай Беларусь (за граніцай сельсаветы Расна і Вярховічы Камянецкага раёна). У гміне 48% плошчы займаюць сельскагаспадарчыя ўгоддзі і 43% лясы.

У Чаромхаўскай гміне пражываюць 3402 чалавекі. У ёй 12 вёсак і вёсачак. У ЗАГСе ўжо не ўпамінаюць назваў колішніх паселішчаў, між іншым, Дэргаўкі, Гайкаў, Коніка, Апалёванкі, Осыпа, Падараб'я, Рэпішча, Тэрэхаў і Хлявішчаў. Найбольшыя ў гміне вёскі гэта Чаромха — яна налічвае 2428 чалавек, Чаромха-Вёска — 277, Ставішча — 195 і Кузава — 179. Сярэднія вёскі тры: Вулька-Тэрахоўская — 93 жыхары, Баброўка — 62 і Зубачы — 61. Да малых належаць Янцэвічы — 14 жыхароў, Пагулянка і Полаўцы — па 17, Апака-Вялікая — 21 і Бэрэзышча — 38. У вёсках пражывае многа пажылых людзей. Адкуль узялі назвы паселішчы Зубачы, Кузава, Полаўцы? Адказ чытач знойдзе ў выданні «Панарама гмін усходняй Беласточчыны» (аўтар кніжкі — ніжэйпадпісаны), Беласток 1995 — у раздзеле «Чаромхаўская гміна» стар. 129-130. Яно даступнае ў рэдакцыі «Нівы».

Шчыльнасць насельніцтва складае 35 асоб на квадратны кіламетр. І яна большая, чым у суседніх гмінах. Насельніцтва размешчана на тэрыторыі гміны нераўнамерна. Ніжэйшая шчыльнасць там, дзе знаходзяцца дзяржаўныя і прыватныя лясы. На 100 мужчын прыпадае 108 жанчын. Ва ўзроставай групе 80-85 гадоў жанчын у тры разы больш чымсьці мужчын — яны раней паміраюць і жанчыны застаюцца ўдовамі.

Сёлета ў Чаромхаўскай гміне пажаніліся 15 пар, нарадзілася 26 дзяцей ды памерлі 18 чалавек. Шэсць пар атрымала медалі «За шматгадовае шлюбнае жыццё» (у мінулым годзе было 11 такіх пар).

А як было ў мінулыя гады? Дваццаць гадоў таму ва ўсёй Чаромхаўскай гміне пражывалі 4377 чалавек. Гмінны цэнтр Чаромха налічваў 2730 жыхароў, Чаромха-Вёска — 518, Кузава — 292, Ставішча — 285, Вулька-Тэрахоўская — 180, Зубачы — 155, Баброўка — 152 і Янцэвічы — 61. Тады радзілася 50 дзяцей у год, стольки сама і крыху больш жыхароў памірала. Сыходзілася 30 пар. У адным выпадку кавалер з гэтай гміны ажаніўся з беларускай з-за мяжы, з Рэспублікі Беларусь. Была адна маладая пара, у якой кавалер быў на 20 год старэйшы ад выбранніцы.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Год пасля смерці

На праваслаўную Куццю 6 студзеня 2017 года міне год ад смерці бацюшкі Рыгора Сасны, настаяцеля царквы свсв.Кузьмы і Дам'яна ў Рыбалах. Бацюшку Сасну я пазнаў два гады да ягонай смерці, калі са сваёй жонкай прыехалі да яго папрасіць, каб адправіў нам вясельную літургію. Ён вельмі ўцешыўся, што мы «не прапалі» і хочам вянчацца ў царкве, а таксама ўцешыўся, што я — яго зямляк. Мой дзядзька, які з'яўляецца гісторыкам, вельмі ўцешыўся, што мяне і маю жонку будзе вянчаць слаўны бацюшка Рыгор Сасна, якога вельмі паважае як святара і гісторыка. Мяне здзівіла, што бацюшка Сасна мяне добра ведае менавіта па «Ніве». Бацюшка Сасна быў шчыра адданым беларускасці чалавекам. Як адзіны лічыў, што трэба падтрымліваць дзейнасць маладога пакалення беларусаў Беласточчыны. Разам з Дарафеем Фіёнікам выдаў і аставіў па сабе вельмі многа кніг. Асабліва запаміталася мне кніга бацюшкі Сасны пра яго род і матушкі Антаніны, а таксама пра гісторыю вёскі Рудуты. У гэтай кнізе я шмат знайшоў інфармацыі пра род сваёй сям'і, таму што мая маці таксама родам з Рудутаў. Бацюшка Сасна разам з матушкай у будынку былой школы вялі Музей «Бацькаўшчына», дзе трымалі шмат экспанатаў. Бацюшка Сасна быў аўтарытэтам для ўсіх беларусаў у Польшчы. Ён не толькі быў святаром і гісторыкам, але і грамадскім дзеячам. Шкада, што няма яго сярод нас.

**Юрка БУЙНЮК**

# Непрафесійнае мастацтва Гайнаўскай зямлі ў ГДК

**Падчас падвядзення вынікаў і адкрыцця выставы XXIII Агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі 9 снежня ў галерэі Гайнаўскага дома культуры можна было ўбачыць жывапіс, разьбу, рысункі і працы, выкананыя мяшанымі тэхнікамі, аўтарамі якіх з'яўляюцца жыхары Гайнаўскага павета. Да агляду прыступілі 32 асобы, якія конкурснай камісіі прапанавалі 134 мастацкія працы. 12 самародных мастакоў атрымалі ўзнагароды, 11 асобам былі прызначаны вылучэнні, 86 работ было адабраных на экспазіцыю і будуць прэзентавацца ў галерэі ГДК да 30 студзеня 2017 года.**

— На выставе бачым цікавыя мастацкія працы, якія мы вылучылі з ліку ўсіх прад'яўленых на агляд работ. Ацэньвалі мы іх, звяртаючы ўвагу на варштат працы непрафесійных мастакоў, падборку тэм, кампазіцыю прац, уменне карыстацца колерамі, — сказала мастачка Іаанна Кярсноўская, старшыня камісіі агляду, у якой працавалі таксама разьбяр Малгажата Нядзелька і жывапісец Крыстына Куніцкая.

Мерапрыемства пачалося з выступу з песенным рэпертуарам дзяўчат са «Студыі эстраднай песні» Гайнаўскага дома культуры.

«Непрафесійнае мастацтва дае мастаку шырокія магчымасці экспрэсіі, выяўлення сваіх эмоцый і адносін да акружаючай нас рэчаіснасці», — заявілі арганізатары агляду. Пра высокі мастацкі ўзровень прэзентаваных у галерэі дома культуры прац самародных творцаў гаварыў дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч, які прывітаў мастакоў, гасцей і гайнаўян, прыбылых на падвядзенне конкурсу і адкрыццё экспазіцыі непрафесійнага мастацтва. Віцэ-бургамістр Гайнаўкі Андрэй Скепка разам з віцэ-старастам Гайнаўскага павета Ядвігай Дамброўскай, дырэктарам бюро Аб'яднання самаўрадаў Еўрарэгіёна «Белавежская пушча» Янам Хомчукам, дырэктарам і працаўнікамі ГДК уручылі пераможцам агляду дыпломы, узнагароды і статуэткі агляду. У катэгорыі «жывапіс» узнагароды атрымалі Міраслаў Хіліманюк, Мікола Яноўскі і Станіслаў Паскробка, а вылучэнні — Зінаіда Андраюк, Яўгенія Маліноўская, Марк Сапёлка і Ядвіга Вілюк.

— Я пачынаў з малявання рэалістычных краявідаў. Вучуся маляванню і іншым мастацкім тэхнікам падчас заняткаў, якія ў Гайнаўскім музеі вядзе Данель Грамацкі, а ў Гайнаўскім доме культуры — Зінаіда Якуць. Тэарэтычныя веды з галіны мастацтва я засвойваю сам і ад нейкага часу я пачаў адыходзіць ад рэалістычных прац і раблю штораз большыя крокі ў бок абстрактнасці. На навейшых маіх алейных карцінах перадаю перш за ўсё свае эмоцыі, але таксама хачу, каб кожны глядач па-свойму ўспрыняў тое, што ўбачыць на маіх працах, — сказаў Міраслаў Хіліманюк з Гайнаўкі.

— Міраслаў Хіліманюк малюе штораз лепш. На яго карцінах бачнае ўмелае карыстанне колерамі і пошукі новага, што ён робіць ад нейкага часу. Павышаецца таксама ўзровень прэзентаваных на аглядзе прац іншых самародных мастакоў Гайнаўшчыны, — заявіў гайнаўскі прафесійны мастак Данель Грамацкі.

— На гайнаўскі агляд я падрыхтаваў дзве алейныя карціны і рады, што за краявід з вадой і лесам атрымаў узнагароду. Моцна цешыць мяне таксама першае месца, якое самастойна атрымаў я сёлета за карціны са жнівом і буслам падчас агляду непрафесійнага мастацтва, які раз на два гады арганізуе Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку. Там першае месца за разьбу атрымаў таксама Міхал Коц з Гайнаўкі, а свае працы прэзентавалі іншыя самародныя мастакі Гайнаўшчыны, — гаварыў Мікола Яноўскі са Старога Беразова.

Пастэльная работа «Макавае поле» Станіслава Паскробкі, які, на жаль, не прыбыў на мерапрыемства, была высока ацэнена старшынёй камісіі Іааннай Кярсноўскай, перш за ўсё за цікавую кампазіцыю, удалую падборку колераў і добры варштат працы. Мікола Ягадніцкі, гайнавянін родам з Чыжоў, Мікола Корх з Краськоўшчыны, што каля Вітава, і Міхал Коц з Гайнаўкі атрымалі раўнапраўныя ўзнагароды, а ўся іх разьба была выканана арыгінальна і цікава.

— Праваслаўныя дзеткі калядавалі са звёздачкамі, а каталіцкія — з шопкай і пераапранутыя за караля, д'ябла і іншых батлеечных персанажаў. На сёлетні агляд я выканаў праваслаўных і каталіцкіх калядыікаў, якіх на гэтай выставе паставілі перамешанымі і даў сваёй разьбе загаловак «Калядаванне на Падляшшы»,



Узнагароду за разьбу «Калядаванне на Падляшшы» атрымаў Міхал Коц



Дырэктар бюро Аб'яднання самаўрадаў Еўрарэгіёна «Белавежская пушча» Ян Хомчук (справа) уручае статуэтку агляду Міраславу Хіліманюку (за імі справа старшыня камісіі Іаанна Кярсноўская і інструктар ГДК адказная за арганізаванне агляду Зінаіда Якуць)



Віцэ-бургамістр Андрэй Скепка разам з намеснікам старасты Ядвігай Дамброўскай уручаюць узнагароду агляду Міколу Ягадніцкаму



— сказаў Міхал Коц, якога вялікая драўляная скульптура ахоўніка Белавежскай пушчы стаіць на кругавым скрыжаванні з вуліцай Варшаўскай.

— Я выконваю разьбу ў ліпе, якая можа быць большых памераў і ў карэнні, якая намнога больш складаная, бо першапачаткова трэба яшчэ знайсці адпаведнае карэнне ў лесе, — заявіў Мікола Корх.

Мікола Ягадніцкі паказаў разьбу з выявамі Хрыста:

— Апошнім часам у мяне найбольш разьбы з рэлігійнымі тэмамі і тут таксама прэзентуюцца мае розныя працы з Хрыстом.

Вылучэнне ў катэгорыі разьбы атрымаў Мечыслаў Дудзін. Узнагароды ў катэгорыі «Рысунак» атрымалі Януш Кулеша з Цісоўкі за партрэт дзяўчыны, выкананы алоўкам і Ежы Жукоўскі з Гайнаўкі за рысунак вясковых хат, выкананы тушшу. Вылучэнні за рысункі атрымалі Уршуля Гінцт і Мая Бэрначак. Сярод творцаў з абмежаваннямі ўзнагароды камісія прызначыла Барташу Шпаковічу, Янушу Лісевічу і Дар'юшу Тамашэўскаму, а вылучэнні — Кшыштафу Юрчаку, Марыі Мажаеў і Марку Сакоўскаму. Ірэна Лагвінюк з Чаромхі рашылася пазмагацца за перамогу ў катэгорыі «іншыя тэхнікі» і выканала цікавы гіпсарыт з птушкамі, за які атрымала вылучэнне. У гэтай катэгорыі перамог Яцак Некраш.

— Прэзентаваныя тут мае працы можна прыраўняць да сімвалізму і я на іх перш за ўсё перадаю свае эмоцыі, — заявіў Яцак Некраш.

Віцэ-бургамістр Андрэй Скепка паінфармаваў, што ў Гайнаўцы рыхтуецца месца для выкарыстання яго мясцовымі мастакамі.

— Мы хочам гайнаўскую воданапорную вежу, якая зараз пустуе, прыстасаваць для патрэб мастакоў. Прадугледжваем, што будзе там месца і для выставак і для майстэрняў. Вакол вежы маглі б арганізавацца мастацкія пленэры, — сказаў Андрэй Скепка.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



# Мае 20 гадоў з „Нівай"

Сёлета „Ніва" адзначае 60-гадовы юбілей. Я таксама магу сказаць, што з'явіўся на свет акурат тады, калі паказалася „Ніва", а роўна дваццаць гадоў звязаны з „Нівай" як карэспандэнт. Тыднёвік апублікаваў за тысячу маіх допісаў. Зараз асаблівая мне хвіліна, каб спыніцца і коратка падвесці мінулы час — ці варта пісаць у „Ніву"?

Гавораць, што чалавек жыве столькі разоў, колькі мае страсцей. У мяне многа страсцей: фатаграфаванне, музыка, жывапіс. З „Нівы" атрымаў чарговую страсць, быццам новае жыццё — запал карэспандэнта.

**ЗВЯРНУЎ УВАГУ НА ОРЛЮ**

Першым маім артыкулам, апублікаваным у „Ніве", быў допіс „Школьніцтва ў Орлі на Падляшшы" ад 15 снежня 1996 года, чарговым — „Бежанскія нягоды" ад 22 снежня таго ж года. Добра памятаю выказванні некаторых арлян на мой запал пісаць у „Ніву". Было прыемна, калі мой колішні настаўнік Мікалай Ляшчынскі, сустрэўшы мяне на вуліцы, узрадаваўся: „Робіш прыгожую справу". Вялікія словы, але прызнаюся, што я іх тады не асэнсаваў поўнасцю. Іншыя словы пачуў я ад настаўніцы-пенсіянеркі беларускай мовы: „Ой, яны („Ніва") не надрукуюць" і падалося мне, што яна зайздросціць і знеахвочвае. Абое колішнія настаўнікі пабудзілі мяне мацней. Пісаў я шмат на розныя тэмы, а „Ніва" публікавала. Падбадзёрваў мяне галоўны рэдактар Яўген Мірановіч.

5 верасня 1998 года на аснове раней апублікаваных маіх допісаў наладзіў я ў будынку арлянскай школы фатаграфічна-гістарычную выставу „Пяць стагоддзяў Орлі і наваколля"; была гэта першая выстава за ўсю арлянскую гісторыю. Мясцовы прадпрымальнік Марк Хмялеўскі сказаў тады: „Яму (Мінцэвічу) удалося тое, што дагэтуль нікому не ўдавалася — звярнуць увагу на Орлю". Значыць — дзякуючы „Ніве". Цягам двух гадоў назбіралася столькі артыкулаў, што ледзь памесціліся на сценах вялікай школьнай залы (дакладна: у 1997 годзе апублікаваў 89 артыкулаў і 73 у 1998 годзе). Ніўская журналістка Ада Чачуга вітала мяне словамі: „О, Мінцэвіч ахапіў усю «Ніву»".

Пісаў я пра ўсё, што адбывалася вакол мяне: пра цікавых людзей, выцягваў з людской памяці апошнія крышынкі гісторыі, пісаў пра юбілей арлянскай царквы і лёс тутэйшай сінагогі, пра пажарнікаў і скаўтаў, пра сустрэчу з Надзеяй Артымовіч і пра многае-многае іншае.

Калі ў „Ніве" пачалі рэгулярна паяўляцца мае артыкулы, мясцовая настаўніца беларускай мовы Анна Шыманская ўсклікнула: „Гляньце, наступіла адраджэнне — пішуць пра Орлю!". Людзі сталі чакаць „Ніву", вышуквалі, што там было пра іх мястэчка, а мо пра іх саміх ці пра суседзяў нешта ёсць... Людзі цешыліся і гаварылі, што цягам двух гадоў „Ніва" навярстала малое зацікаўленне Орляй.

Прэзентаваныя ў „Ніве" артыкулы сталі павучальнымі ўрокамі гісторыі нашай мясцовасці, прыкладам для іншых — школу ў Орлі наведвалі вучні іншых школ. Пісалі таксама іншыя медыі. 14 верасня адбылася ў Орлі канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы пачатковых і сярэдніх школ Беласточчыны. Прычынай склікання нечарговай канферэнцыі была мая выстава, а тая — заслугай „Нівы".

**ЗАБАРАНІЛІ ЗАПІСВАЦЬ**

Так бывае, што той, хто піша ў газету, уладам не заўсёды па душы. Так было і так засталося па сённяшні дзень. У артыкуле ад 22.06.1997 г. пісаў я, што гмінны сакратар рашуча забараніў прызначаць грошы на „нейкія там беларускія ці праваслаўныя газеты". Сказаў ён: „Няма ў нас грошай — самі яны пішуць, няхай і самі чытаюць".

Нельга аспрэчыць, што ў 1997 годзе „Ніва" прычынілася да нейкага роду рэвалюцыі ў ходзе пасяджэння арлянскай Гміннай рады. Дагэтуль ніхто тут не запісваў на магнітафон дэбатаў, хаця закон дазваляў гэта; карэспандэнту „Нівы" забаранілі запісваць, а нават загадвалі пакінуць залу. Радныя прызналіся чаму: „Бо мы не ўмеем размаўляць, мы брыдкасловім". Артыкул ад 28.09.1997 г. „Страсці вакол «Фольксвагена»": „Значную частку сесіі заняла справа гміннага „Фольксвагена", які быў украдзены падчас замежнай паездкі калектыву „Арляне". Журналістам было забаронена запісваць сесію на дыктафон".

**ПАСПЕЛІ ПАРАЗМАЎЛЯЦЬ**

Не кожны чалавек ахвотны на размову ці ўспаміны, не кожны ўмее гладка размаўляць, іншыя бянтэжацца або баяцца — дае аб сабе знаць палітыка, можа нешта сарамлівае, даўняя гісторыя, хваляванні...

За некаторымі, пакуль згадзіліся размаўляць, трэба было нахадзіцца, часам некалькі гадоў, аж настаў адпаведны момант. Людзі аказваліся вельмі сціплымі. За некаторымі „хаджу" гадамі і бачу, што ўжо паразмаўляць не ўдасца, бо патрацілі ранейшую памяць. Некаторыя адтэрміноўвалі размовы і раптоўна адыходзілі назаўсёды. Шкада, бо такім чынам вышмыгнуў нам кавалак гісторыі. Але былі і такія, якія вельмі хацелі з некім паразмаўляць, але не мелі з кім („Адзінокія на лавачках", „Ніва" ад 7.09.1997 г.).

Спаткаў я шчырых людзей, якія прызнаваліся пасля, што яшчэ з нікім так не размаўлялі, нават са сваімі дзяцьмі. Здаралася, што пасля нейкага часу чалавек паміраў, а сям'я звярталася да мяне за артыкулам пра іх продка, тады такі матэрыял я капіраваў на ксераксе, бо ж людзі хочуць захаваць нейкія памяткі. У народзе гавораць: „Жывём столькі, колькі нас памятаюць".

Цікавілі мяне размовы з пажылымі людзьмі. Каб запісаць гісторыю, трэба было спяшацца, часта былі гэта людзі хворыя, дажываючыя свой век, часам прасіла пра гэта сям'я. Мой знаёмы Ян Кубаеўскі, які чытаў беларускія газеты, сказаў мне так: „З табою боязна размаўляць, бо як толькі напішаш і газета апублікуе, то герой зараз памірае". І так у сапраўднасці здаралася. Бывала, што публікацыя паказвалася ў дзень пахавін або крыху пазней; сямейнікі спешна куплялі газету. Людзі ахвотныя размаўляць яшчэ многа захоўвалі ў памяці. Сваё жыццё падсумоўвалі, што прайшло як адзін дзень, гаварылі, што жыццё як запалка — успыхвае, гарыць, а пасля гасне...

Толькі дзякуючы тыднёвіку „Ніва" меў я нагоду размаўляць з многімі людзьмі, асабліва пажылымі. І наслухаўся столькі, што неаднаразова адчуваў сябе быццам сам жыў у міжваенны час; гэта незвычайна. Сёння ўжо няма тых асоб у ліку жывых, але засталіся іхнія запісаныя на стужку галасы, іх мова. Для мяне гэта вельмі каштоўныя касеты; часам сягаю да іх пры розных нагодах, тыя людзі ўвесь час перада мною жывуць. З магнітафона чую не толькі іхні голас, таксама іх подых. І чалавек задумваецца пра жыццё, пра прамінанне. Запісы зроблены на мясцовай гаворцы, а гэта сёння асабліва каштоўнае, калі яна знікае. *(працяг будзе)*

Міхал МІНЦЭВІЧ

## Зімой у Новым Ляўкове

Сёлета першы снег выпаў у лістападзе. Калі я пішу гэты допіс, на двары стаіць другая палавіна снежня. Ляжыць снег, тэмпература апусцілася ніжэй за нуль. Значыць, снег будзе ляжаць даўжэй. 16 снежня схадзіў я ў краму ў Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны. У вёсцы добрых пару гадоў пракладзены тратуар. Я ішоў па ім і коўзаўся як на лёдзе. Ісці было небяспечна. Мае аднавяскоўцы не адгарнулі снегу з тратуара.

Чаму зараз так ёсць? Солтыс адкінуў снег у роў пасля ападкаў і забыў гэта ўпору. На другі дзень выскачыў мароз і ўсё скаваў. Цяпер упарадкаваць тратуар нялёгка. Што зімой так бывае гэта, як мне здаецца, не навіна асабліва для пажылых людзей. Чаму тады новаляўкоўцы не ачысцілі ад снегу тратуара?

А вось і таму, што ўсё менш жыхароў у вёсцы. Хто памёр і хата пустуе, а новыя ўладальнікі-гаспадары жывуць у Нараўцы, Белавежы ды ў Гайнаўцы і сюды не наведваюцца, а ўжо амаль ніколі ў зімнюю пару. З некаторых дамоў дзеці забралі сваіх пажылых бацькоў на зіму ў Беласток. Адна жыхарка стала ўдавою і з'ехала ў Германію. Ёсць жыхар, які рэдка калі бывае дома. Бо як быць дома, калі на слупе адключылі яму электраэнергію. Той гаспадар многія гады і падатку не плаціць.

Некаторыя жыхаркі адносяцца да справы абыякава. Пераказалі дамы для сыноў і тыя летам часцей бываюць, а зімой як папала. Самі ж так адкажуць солтысу: «А я ўжо старая, дзе мне ісці на вуліцу адкінуць снег». Вось, падумай. Дома і на панадворку, а летам і ў адным, і другім агародчыку даюць сабе рады ажно гэй. Яшчэ адзін жыхар бастуе, бо «калі пойдзе грузавік са снежным плугам, то скідае снег з маставой на тратуар і што зноў ідзі ды адгартай». Ён так кажа: «Я больш не пайду адкідаць снег у роў! Як засыпаў, то няхай адгорне». Іншыя жыхары так кажуць проста ў вочы солтысу: «Мы цябе выбралі, то рабі ўсё, каб тратуар у бліжэйшую нядзельку быў ачышчаны ад снегу. Людзі ж у царкву пойдуць на багаслужбу". Вось табе на!

Калі б была ў вёсцы моладзь, можна было б арганізаваць грамадскі пачын. Але дзе ўзяць тую моладзь? З Новага Ляўкова ў школу даязджаюць лічаныя адзінкі. Старэйшыя юнакі прыедуць з далёкай Фінляндыі, дзе зараз працуюць, толькі на святы. Зімой у вёсцы над Б195роўкай і Нараўкай сумна і глуха. Не пабудавалі тут святліцы ні клуба. Апошнім часам у прыхадской царкве ў Старым Ляўкове то як не пахаванне, то саракадзённая ды гадавыя абедні ў памяць па памерлых.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

# Каляды сёння і калісьці

З чым асацыююцца мне Каляды? Безумоўна з вёскай і са шчаслівым дзяцінствам. З калядкамі спяванымі на Раство з бацькамі, бабуляй і сястрой у маёй роднай вёсцы Маліннікі на Бельшчыне. Хаця мая сям'я праваслаўна-пратэстанцкая, то Каляды заўсёды святкавалі і святкуем штогод па юліянскім календары, значыць — праваслаўныя. І з калядкамі з касет: гурта «Анонім» на словы Віктара Шведа, ці калядкамі ў выкананні «Хлопцаў-Рыбалоўцаў» або ўкраінскай фольк-этна групы «Дрэво» з цудоўнай манерай спеву-крыку. Калядак ужо можна было слухаць ад свята Увядзення Багародзіцы ў храм, значыць ад 4 снежня. Каляды безумоўна асацыююцца з ёлкай, гэтай сапраўднай, з лесу, якой цудоўны пах разносіцца па хаце. Каляды гэта безумоўна і смак страў на Куццю: селядцоў, увогуле ўсякай рыбы, шчолку — кампоту з сушаных яблык і груш з саду майго бацькі. Пампушкі з грыбамі, з квашанай капустай, кісель і безумоўна боршч з сушаных грыбоў, без якога не можа абысціся стол на Куццю. І заўсёды на ўсякі выпадак свабоднае месца для неспадзяванага госця. Традыцыяй было класці сена пад абрус, таксама як трансляцыя праваслаўнай калядняй вячэрні на Радыё Беласток. На Куццю ноччу абавязкова ехалі мы на ўсяночную ў царкву ў Падбеллe, тую ж самую парафію, дзе таксама хрысціўся і пражывае мой зямляк, а да таго сябар — паэт Юрый Баена. Юрыя часта сустракаю ў Падбеллі. У 1990-х гадах ездзілі на трактары, а зараз на аўтамашыне. Калісьці ўсяночную служыў айцец Мікалай Блізнюк, а зараз — айцец Міраслаў Чурак. Тут сустракаліся ўсе людзі з навакольных вёсак: з Малiннік, Градалёў, Кошак, Мокрага, Дубяжына, Казлоў ці з Рыгораўцаў-Станцы. Людзей у Падбеллі цэлая царква. Усе ўзнёсла і ўрачыста гучаць калядкі ў выкананні таленавітага царкоўнага хору. Асабліва на перапынку старыя мужчыны мелі нагоду пагутарыць на цікавыя справы.

Каляды майго дзяцінства гэта пераважна снег, мароз, не так як зараз. Вяртаючыся над раннем з бацькам вітаем усіх сямейнікаў са святам. Ужо пасля багаслужбы можна легальна пакаштаваць свойскіх мясных вырабаў з вепрука, якога закалолі ў час каталіцкіх Каляд. Яшчэ ў дзяцінстве на Раство хадзілі мы з сябрамі-аднавяскоўцамі з гвяздай і калядавалі ад хаты да хаты. Малінніцкія людзі шчодра нас абдароўвалі. Часам даставалі па чарцы салодкай гарэлкі, каб лепш нам спявалася. Я заўсёды калядаваў у адной кампаніі з маім найлепшым сябрам Грышкам, з Андрэем — сябрам па школьнай парце ды яго братам Адамам. Тады калядавала вельмі многа калядных груп, усе асобна — малыя, старыя, хлопцы, дзяўчаты, дзеці. Зараз мала хто калядуе, а шкада. Толькі цётка Тоня, што спявае ў пеўчых, штогод прыгожа рыхтуе сваіх унукаў — дзяцей майго сябра і цёзкі, якія яшчэ калядуюць. Шкада, што памірае так прыгожая спрадвечная традыцыя, якой з'яўляецца калядаванне. На першы дзень Каляд наведвала нас і надалей наведвае сям'я маёй маці — дзядуля Васіль, дзядзька Пётр, цёця Лілія і нашы дваюрадныя сёстры і браты. Часам з'яўляўся нехта з украінскай радні цёткі Ліліі. На другі дзень прыходзілі хросныя з падарункамі. А зараз мы з жонкай сталі гасцямі ў сваіх родных хатах, дзелячы святы на дні ў бацькоў і цясцёў. Калі жыла мая бабуля, на другі дзень святаў прыходзіла да нас суседка, бабуліна сяброўка Елька Калішук. Абедзве найбольш любілі як я чытаў ім Біблію, за што вельмі мне дзякавалі. А я быў удзячны ім, калі мог на дыктафон запісаць размову пра мінулае. Мая бабуля Манька Буйнюк асабліва любіла ўспамінаць Каляды свайго дзяцінства. На трэці дзень Каляд прыязджала да нас у госці цётка Ніна — наймалодшая сястра бацькі.

І так міналі і мінаюць хутка штогод доўгачаканыя Каляды — Раство Сына Божага Ісуса Хрыста.

Юрка БУЙНЮК

## Прэміяльныя для маршалкаў Сейма і Сената

У снежні г.г. з фонду ўзнагарод маршалак Сейма Марэк Кухцінскі на «Мікалайкі» прызначыў высокія прэміяльныя для сваіх наменнікаў па 13 196 зл. (на руку па 13 000 зл.). У аргументацыі запісана: «за вельмі інтэнсіўны перыяд парламенцкіх прац». Колькі сабе прызначыў — невядома.

Падобнымі ўзнагародамі пакарысталіся маршалак Сената Станіслаў Карчэўскі — 33 400 зл. брута і чатырох віцэ-маршалкаў: Багдан Барусэвіч, Адам Белян, Гжэгаж Чэлей і Мар'я Коц па 22 500 зл. брута, разам 123 400 зл. У аргументацыі маршалак таксама спаслаўся на інтэнсіўную працу і яшчэ на ангажаванасць у апеку над палякамі ў замежжы. Грошы былі пералічаны на банкаўскі рахунак, аб чым парламентарыі не ведалі. Справа выйшла ў свет, калі віцэ-маршалак Сейма Станіслаў Тышка (Кукіз-15) звярнуў грошы ў канцылярыю Сейма з прыпіскай «на дабрачынны мэты для найбольш патрабуючых». Не ўдалося схаваць шыла ў мяшку. Забурліла ў масмедыях. Апошнім «абдораным» не выпадала зрабіць інакш, як пайсці следам Станіслава Тышкі. Атрыманыя грошы прызначылі на дабрачынныя мэты. Вось, даражэнькія, як «добрая змена» клапоціцца аб сваіх выбаршчыках.

(ус)



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Магда Бяляўская

Фота Улі ШУБЗДЫ



## — пераможца «Дэбюту»!

Магда Бяляўская і прафесар Ян Чыквін

Адны трэніруюць нейкія віды спорту, іншыя ездзяць на экскурсіі, а яшчэ іншыя глядзяць кіно... Кожны пасвойму шукае спосабаў адпачынку, які дапаможа таксама забыцца пра нейкія праблемы ці турботы. Магда Бяляўская тыя радасці і праблемы любіць дзяліць з... карткай паперы і асадкай. Свае эмоцыі пералівае на паперу — так узнікаюць яе вершы, якія ўразілі журы сёлетняга XIX Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы «Дэбют».

**— Спачатку віншую з поспехам! Ты спадзявалася перамогі?**

— Не. Гэта для мяне вялікая неспадзяванка. Я не разлічвала, што мае вершы журы палічыць самымі цікавымі.

**— Што чытачы могуць знайсці ў Тваіх вершах?**

— Мае думкі. І ўсё, што маё. Проста, жыццё, якое я адчуваю, якое я бачу, якое іншыя людзі адкрываюць перада мною.

**— Ведаю, што ўжо ад некалькіх гадоў ствараеш паэзію. Тыя вершы былі адмыслова напісаны пад конкурс? Ці можа Ты выцягнула з шуфляды самыя лепшыя?**

— Гэтыя вершы паўсталі з натхнення. Толькі тады сядаю пісаць. Калі я шчаслівая, ці наадварот — сумная, тады проста пішу.

**— Так што можна чакаць чарговага верша, які ўзнікне на хвалі радасці ад перамогі ў конкурсе?**

— Можа... (смех)

**— Ведаю, што таксама Твае вершы паўстаюць у час майстар-класаў на Сустрэчах «Зоркі», якіх Ты ўжо «ветэранка». Нейк цябе настройвае нараўчанская прырода? Ці можа сустрачанскія сябры?**

— Так. Многа маіх твораў паўстала на Сустрэчах «Зоркі». Прысутнасць на іх вельмі многа для мяне абазначае. Я лічу сябе беларускай і менавіта там магу поўнасцю сябе праявіць.

**— Ці Ты сама спраўляешся з мовай? Паэзія патрабуе таго, каб добра разумець, але і адчуваць мову. Патрабуеш нейкай дапамогі?**

— Думаю, што я ўжо на такім этапе, які дазваляе мне самастойна пісаць, але часам трэба параіцца кагосьці. Такой асобай з'яўляецца мая настаўніца — Анна Кандрацюк. Яна многа ў чым дапамагае мне.

**— Ваша гміна багатая на пісьменнікаў. Таксама не сакрэт, што гэта вашы настаўніцы маюць вялікі ўплыў на тое, што і вы «прабуеце» ствараць паэзію. Што будзе, калі пойдзеш далей у свет?**

— Вершы — гэта частка мяне. Не шкадую часу на творчасць. Заўсёды яна будзе прысутная ў маім жыцці.

**— Хай так будзе! Дзякую за размову і яшчэ раз віншую ад імя ўсёй рэдакцыі!**

***Размаўляла Уля ШУБЗДА***

**Магдаліна БЯЛЯЎСКАЯ,**
Гушчэвіна, Гімназія ў Нараўцы

***

Плыве час над намі,
топіць свае ледзяшы.
Ды яны капаюць
нам на насы.
І брыдзем мы
ў гэтай рэчцы,
Не паглядаючы
на свет.
Топімся.

## Быць лёгкім

У далейшым жыцці
мы забудзем пра ўсё.
Будзем лёгкія як хмары
ляцець над зямлёй,
пакрытай туманам
і начной расой.
Убачым святло над галавой.
Будзем ляцець па палях,
лясах і далінах,
пакрытых сінімі вачыма
спаглядаючымі на нас
з іншага свету.

## Сон жыцця

Спіць зямля
гуканнем ціхім
І нават верш
не калыша лісця.
Спіць зямля
сном вялікім
І можа нават
ніхто яе не чуе.
Спіць зямля
а можа не спіць?
І можа нават
свет сіні
забыўся пра яе
шуганне глухое.
Спіць зямля?
А можа не можа?

## УВАГА КОНКУРС!
## № 52-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 8 студзеня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Ён над вуліцай сядзіць,**
**Ён на вуліцу глядзіць.**
**Як зялёным замігае —**
**Пераходзіць дазваляе,**
**жоўты — знак перасцярогі,**
**Уцякай хутчэй з дарогі!**
**А чырвоны загарыцца —**
**Трэба тут жа прыпыніца.**
**С........**

**(У. Мацвеенка)**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 49: вожык.**

**Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі** Марлена Лабаноўская, Вікторыя Гаць **з Бельска-Падляшскага,** Магдалена Люнда, **Юстына Астапковіч, Мар'юш Радзецкі з КШ № 1 у Гайнаўцы,** Міхал Тапалянскі, **Оля Кардаш з Нарвы,** Адрыян Максімюк, **Аляксандр Семянюк, Аляксандра Раманюк з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!**

# Мядзведзь і сабака

*(казкі народаў Каўказа)*

У аднаго чалавека быў сабака. Ён пільнаваў двор і статак. Гаспадар вельмі любіў сабаку.

Міналі гады, непрыкметна наблізілася старасць. Сабака пачаў слепнуць і глухнуць, ён ужо амаль не брахаў уначы.

«Навошта карміць мне старога сабаку, — падумаў гаспадар. — Ён жа не ў змозе мне служыць».

Як падумаў так і зрабіў: прагнаў сабаку з двара. Пабег сабака, куды вочы панеслі. Цэлы дзень ён шукаў сабе нейкай яды, аднак нічога не знайшоў. Сеў пад дрэвам і жаласна завыў. Аж тут мядзведзь ідзе, пытае ў сабакі:

— Чаму ты, браток, тут сядзіш і жаласна выеш? Хто цябе пакрыўдзіў?

Расказаў сабака пра сваю верную службу і як прагнаў яго чалавек.

— Не бядуй, — супакоіў мядзведзь, — усё будзе добра.

Ён схадзіў у сяло, прынёс адтуль барана і аддаў яго сабаку.

— Калі з'ясі барана дык прынясу яшчэ што-небудзь, — сказаў мядзведзь.

Наеўся сабака, прысеў пад дрэвам і зноў горка вые. З'явіўся касалапы і бачыць: адна песня. У гэты раз прывалок ён небарака быка. Калі мяса скончылася, зноў прыйшоў мядзведзь, бачыць, сабака ледзь на нагах стаіць, гібее і нікне ў вачах.

— Няма для цябе лякарства, — сказаў мядзведзь, — мусіш вярнуцца да гаспадара. Але пакуль я не магу дапамагчы. Трэба пачакаць лета, калі гаспадар разам з жонкай выйдуць жаць проса. Яны возьмуць з сабой сынка, пакінуць яго ля шалаша, а самі пойдуць да жніва. Навокал многа ваўкоў, яны могуць схапіць дзіця. Да гэтай пары я сам адганяю ваўкоў, а зараз мне гэтая задача не пад сілу. Ты сам папільнуеш дзіця. Калі гаспадар пабачыць, што далей яму служыш, ды ён возьме цябе назад у двор.

Настаў доўгачаканы дзень. Усе жыхары аула выйшлі ў поле да проса. Дзесьці, невядома адкуль, з'явіўся воўк. Людзі пакідалі сярпы і разбегліся, кожны ў свой бок, а воўк кінуўся на дзіця. Горка заплакалі бацькі. Яны беглі да свайго сына, але ад страху не паспявалі дабегчы перад ваўком. Раптам, як з-пад зямлі, з'явіўся сабака. Ён ухапіў дзіця за кашулю і прынёс маці. Уцешыўся гаспадар. Ён пагладзіў сабаку і забраў назад у свой двор. А хлопчык падрос ды на крок не адступаў свайго выратавальніка.

Вось як мядзведзь дапамог сабаку вярнуцца дамоў.

**(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)**

Вершы Віктара

# Шведа

## Ідуць святы

– Уставай Агата,
Ідуць да нас святы.
Нельга ленавацца,
Маем многа працы.

– А праца не заяц,
Яна пачакае.
Святы яшчэ далёка,
Не чую іх крокаў.

## Апранаць будзем ёлку

Працавіты тата
Прынёс ёлку дахаты,
У куце паставіў
Прыгажуню на славу.

Мама кажа доні:
– Апранем ёлку сёння.
Запыталася Ленка:
– Апранем у сукенку?

*Замкі і палацы Беларусі*

# РУЖАНСКІ ПАЛАЦ САПЕГАЎ

Ужо здалёк Ружанскі палац выклікае каласальнае ўражанне. Будоўля, дзе большую частку складаюць руіны, уражвае памерамі і незвычайным выглядам. З ацалелых аркад і галерэй глядач складае ў галаве фантастычную канструкцыю, думае пра гістарычныя падзеі і мастацкія пастаноўкі, якія цягам стагоддзяў ажыўлялі месца.

Ружанскі палац — радавое гняздо Льва Сапегі, канцлера ВКЛ. Будоўля спачатку мела выгляд замка з чатырма вежамі. Росквіт сядзібы выпадае на палову XVIII ст. Прыдворны архітэктар Сапегаў, Ян Самуіл Бэкер, рашыў перабудаваць цэлае мястэчка. Новы выгляд набылі сакральныя будоўлі і заезны двор, аднак найбольшай жамчужынай лічыўся палац. Будоўля ўражвала не толькі сваім раскошным выглядам. Дзейнічалі тут тэатр, мастацкая галерэя, бібліятэка, музычная школа, архіў. У палацавым тэатры ставілі навейшыя п'есы Жана Жака Русо, а маэстра Кіпрыні кіраваў струнным аркестрам, у якім ігралі прыгонныя сяляне, абучаныя пры палацы. Побач знаходзіліся парк, звярынец і аранжарэя.

Будоўля была пашкоджана ў часы Паўночнай вайны, а пасля ў 1914 і 1944 гадах.

Зараз сядзіба Сапегаў занесена ў спісак гістарычных будынкаў, якіх чакае грунтоўная адбудова. Ужо паднесена з заняпаду ўязная брама і прыбудоўка. Згодна з планам, у палацы будуць працаваць эксклюзіўная гасцініца і тэатр.

**Зорка**

# Польска-беларуская крыжаванка № 52-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 48:**

Капуста, як, жыта, жолуд, Саўка, партал, карты, ер, мора, сто, Марк, шал, стан, порт, на, зона, вырай, ды. Кантакт, но, маса, парык, корт, парка, Сара, жарт, за, жоўты, апой, жылка, слон, туалет, рад, клад, рост.

Узнагароды, наклейкі і беларускія сшыткі, выйгралі **Міхал Вардэцкі, Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага, **Наталля Гайдук, Анна Кендысь, Магда Люнда** з КШ № 1 у Гайнаўцы**, Караліна Трусевіч, Габрыеля Карбоўская** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Вікторыя Баркоўская, Аляксандра Куптэль** з Арэшкава, **Кінга Леўша** з Нараўкі, **Магда Петручук** з Нарвы, **Магдалена Гарустовіч, Філіп Верэмчук, Якуб Матышэк, Ігар Кардзюкевіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Skroń / Święto | | Jam | Takt | | Parnas | Pępek / Kanał | | | |
| | | | | | | | Ranek | Parostatek | |
| | | | | | Komar / Image | | | Ar | |
| | Jawa | Książka / Anoda | | | | | | | |
| | Ataman | | | | | | | | |
| | | | Siła | | | | | Om | |
| | | | | | | Kod | | | |
| Ubranie | | | | | | | | | |

Надзея Артымовіч

* * *

на маёй выспе
цёпла і цёмна
(я не люблю вострага святла)

на маёй выспе
паміраюць сонныя меандры
і чорныя лабірынты

на маёй выспе
няма вачэй свету

мая выспа
чыстая прастора

* * *

я голая
перад дотыкам госця або свету

гэта заўсёды здараецца
на мяжы лета і восені

гэта кароткі час
лагодны час

ён дастатковы
каб быць з класічнай прозай

побач паэзія
спіць

прыйдзе час...

## Малая айчына

Словы **Міры Лукшы**
Музыка **Галены Шчыгол**

Разгайдаліся травы,
шумяць рэчка і гай.
Гэта наша айчына,
гэта наш родны край.
Вольна дыхаеш ветрам,
пахне дым з камін оў.
Чуеш свойскую песню,
чуеш гук родных слоў.

**Прыпеў:**
Малая айчына,
падляшскі мой край,
Мяне ты таксама не забывай.
Сюды я вярнуся
з далёкіх дарог,
Пасля паражэнняў,
пасля перамог.

Мы сустрэнемся сёння,
зойдзем разам у цень,
Успамінаў не скончым
і за ноч і за дзень.
Вып'ем чарку гарэлкі
і сяброў памянем,
Пасівелых сяброўак
танцаваць павядзем.
Маладыя хай бачаць
– мы яшчэ на хадзе,
З маладым пакаленнем
роўным крокам ідзем.
Дык трымаймася разам
і пільнуйма сваё,
Не прапала каб наша,
з ветрам не паплыло!

Спявае калектыў
«Оморфос» з Сямятыч



Бельскі беларускі ліцэй

# Пачаткі ліцэя. Яраслаў Кастыцэвіч (ч.6)

Вялікай перашкодай у навуцы надалей былі матэрыяльныя нястачы ў дзяржаве і ў людзей. Школьныя і інстытуцкія будынкі былі слабенькія і запушчаныя, класы, аўдыторыі і інтэрнаты — моцна перапоўненыя. Не хапала падручнікаў, кніг і дапаможнікаў. Не хапала або не было за што купіць адпаведнага адзення, абутку і ежы. Але і такіх убогіх класаў, школ і інтэрнатаў было моцна замала і далёка не ўсіх дастойных і ахвотных маглі яны прыняць да сябе на навуку. А ахвотных вучыцца ўсё прыбывала і прыбывала. Бо гэта быў час, калі моладзь, якой былі яшчэ перапоўнены ўсе тадышнія нашы вёскі, пачуўшы, што на іх пакаленне выпала шчасце жыць ужо ў калектыўных (spółdzielczych) вёсках, раптоўна і масава кінулася ўцякаць ад таго шчасця ў гарады, у навуку, што аж пыл курэў...

Паявіліся і новыя перашкоды ў здабыванні кваліфікацыі некаторым нашым дзяўчатам і хлопцам — кулацкае паходжанне. Кулак — гэта такі ж самы селянін-трудзяга як і ўсе іншыя, але які меў няшчасце мець крыху больш гектараў ад бяднейшай нормы. Вось у кім бачыла народная ўлада пагрозу для сябе. Мой бацька меў дзве заганы: замнога гектараў і быў выкінуты з калгаса. Ды і выкінуты быў толькі дзеля таго, каб выкінуць нас, яго дзяцей, з сярэдняй школы, ліцэя. Выкінуўшы, адразу і пайшла калгасная дэлегацыя ў Ліцэй, каб далажыць дырэктару, што ў яго вучацца кулацкія дзеці. Такія выпадкі былі не так ужо і рэдкія ў той час.

Яраслаў Кастыцэвіч вельмі не любіў людзей, якія з зайздрасці ці іншых прычын стараліся зашкодзіць іншым нашым людзям. Таму і прыняў калгасную дэлегацыю холадна, заявіўшы ім, што звольніць са школы не можа. Пакрыўджаная дэлегацыя пайшла ў камітэт партыі, але і там нічога не дабілася. Памаленьку наступала ў краіне палітычная адліга. Меў Яраслаў Кастыцэвіч поўнае права не любіць даносчыкаў. І не толькі таму, што гэта пярэчыла яго жыццёвым прынцыпам, але і таму, што ўжо сам нацярпеўся ад падобных людзей. Партыйныя дзеячы ўвесь час папракалі яго ў святарскім і нябедным паходжанні, беспартыйнасці і працы ў акупацыйнай адміністрацыі. Дайшло нават да таго, што 29 красавіка 1953 года Я. Кастыцэвіч напісаў у Аддзел асветы Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку заяву аб звальненні яго з пасады дырэктара Ліцэя, таму што «pełnienie obowiązków dyrektora tak dużej szkoły wymaga wielkiego nakładu pracy, na który nie pozwala mój pogarszający się stan zdrowia!» На нашае шчасце, Аддзел асветы адмовіўся задаволіць просьбу дырэктара...

У чэрвені 1955 года мае аднакласнікі і я закончылі дзясяты клас, а нашы абітурыенты, здаўшы матуральныя экзамены, сталі выпускнікамі. Было іх у гэтым годзе 35 чалавек. На наступны, 1956 год, ужо мы прыступілі да матуральных экзаменаў і, здаўшы іх, атрымалі атэстаты сталасці. Здало нас з абодвух класаў 47 чалавек.

Канчаючы Ліцэй, мне і такім як я дырэктар раіў падавацца ў навуку дзесьці ў заходнія ваяводствы. Што мы, канешне, і рабілі. Нікому не раіў наш дырэктар паступаць на палітычныя і міліцэйскія школы і службу. Відаць разумеў ён, што ўсё гэта нейкае нясталае, няпэўнае...

Пасля выпускнога балю (пра «стадзёнкі» мы тады яшчэ не чулі) мы развіталіся са школай, настаўнікамі, сябрамі і са смуткам адыходзілі ў так званую «сінюю даль». А гэтая «даль», пазнаўшы яе, не такая ўжо і сіняя была.

Калі паявіліся мы на бельскім вакзале, каб купіць білеты ў Познань, пачалі дапытвацца нас чаго і чаму мы хочам ехаць туды. Аказалася, што ў Познані адбыўся якраз крывавы бунт. Толькі тады прадалі нам білеты, калі паказалі мы запрашэнні на ўступныя экзамены. У Познані таксама часценька правяралі нашы дакументы і прыглядаліся нам. Так што страшнаватымі былі пачаткі нашай сталасці, дарослацці.

Стаўшы выпускнікамі мы разышліся, раз'ехаліся ў розныя напрамкі, а на наша месца, як і павінна быць, прыходзілі іншыя. Ліцэй надалей жыў сваім паўнакроўным жыццём — развіваўся і раз-



растаўся. З кожным годам расла колькасць моладзі ахвотнай вучыцца ў ім. Але не было проста магчымасці змясціць усіх ахвотных у васьмі аддзелах чатырохкласнага Ліцэя.

Марай і намаганнямі Яраслава Кастыцэвіча і Бацькоўскага камітэта было заўсёды: мець сваю школу, свой школьны будынак. У Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання (так ён тады называўся) і ў Пачатковай школе надалей вучыліся моладзь і дзеці ў асноўным з навакольных вёсак, што патрабавала немалых высілкаў з іх боку, а значыць і адпаведных умоў для навукі і адпачынку. Гэта ў сваю чаргу было дадатковым аргументам у патрэбе сваёй школы...

І нарэшце, дзякуючы гэтым старанням і аргументам, пачала памаленьку завяршацца справа пабудовы школы. Наступным немалаважным пытаннем было вызначэнне месца яе пабудовы. Дзеля гэтага 1 верасня 1958 года сабралася адпаведная камісія, якая мела ўступна вызначыць месца яе пабудовы. Яраслаў Кастыцэвіч быў за тым, каб будаваць яе менавіта там, дзе і была яна пазней пабудавана, хоць гарадскія ўлады згадзіліся з гэтым не адразу. А хацеў Яраслаў Васільевіч будаваць яе менавіта там не толькі таму, што гэта прыгожае месца ў цэнтры горада, але і таму, што для веруючага праваслаўнага гэтае месца з'яўляецца сімвалічным, святым. І такім яно павінна заставацца ўсім нам — да 1941 года на гэтым месцы стаяла Мікалаеўская царква, разрушаная вайной. Дырэктарскім аднамысснікам і выдатным памочнікам пры будове школы і выбары месца пад будову быў Канстанцін Майсеня. Лёс невыпадкова звёў з сабой гэтых двух выдатных людзей і беларусаў. Яны абодва выдатна прыслужыліся нашай беларускай меншасці ў Польшчы. Помнікі іх заслуг бачны здалёк у Бельску-Падляшскім і ў Гайнаўцы: у Бельску — Беларускі ліцэй, а ў Гайнаўцы — Беларускі музей. Слава і вечная памяць Ім!.. Але ўсё гэта паявілася пазней.

Раней быў 1959 год і пачатак будовы школы. У 1961 годзе школа была гатова і распачалася навука ў ёй. Школа вялікая. Прыгожая, на 17 аддзелаў. Толькі цяпер Беларускі ліцэй мог набіраць большую колькасць навучэнцаў і разгарнуць сваю працу на ўсю сілу і моц, што Ліцэй максімальна выкарыстаў і надалей выкарыстоўвае. Бельскі беларускі ліцэй з'яўляецца адным з лепшых ліцэяў не толькі ў нашым ваяводстве, але і ў цэлай нашай краіне.

У 1965 г. наступае раздзел школы на дзве асобныя самастойныя адзінкі — Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання і Пачатковую школу № 3. І ў гэтым жа годзе адышоў на пенсію Яраслаў Кастыцэвіч, хоць да 1968 года працаваў яшчэ ліцэйскім настаўнікам.

А вось вынікі апошніх гадоў працы дырэктарам Ліцэя Яраслава Васільевіча Кастыцэвіча: у 1957 годзе Ліцэй закончыла 39 ліцэістаў, у 1958 г. — 33 ліцэісты, у 1959 г. — 28 ліцэістаў, у 1960 г. — 26 ліцэістаў, у 1961 г. — 40 ліцэістаў, у 1962 г. — 37 ліцэістаў, у 1963 г. — 58 ліцэістаў, у 1964 г. — 44 ліцэісты, у 1965 г. — 48 ліцэістаў.

З маіх падлікаў вынікае, што з-пад лёгкай рукі Яраслава Васільевіча выйшлі 543 выпускнікі Ліцэя. Частка адышла з Ліцэя пасля атрымання малой матуры. Частка, з пратэкцыяй школы, перайшла ў іншыя школы вучыцца. Частка, таксама з дапамогай школы, не закончыўшы навукі ў Ліцэі, уладкавалася на працу, давучваючыся на розных курсах, у вячэрніх ці завочных школах. Праходзілі праз Кастыцэвічаву школу і гімназісты, і вучні пачатковай школы. Значыць, на ўсіх іх застаўся нейкі след яго навукі, добры след, разумны след. Ліцэйскія выпускнікі працавалі бадай ва ўсіх галінах і прафесіях нашага грамадскага жыцця і навукі. Яны паднялі таксама на вышэйшы ўзровень наша тутэйшае праваслаўе. Чаго варты адзін толькі а. Рыгор Сасна.

За сябе і ўсіх нас выпускнікоў — вялікае дзякуй, Яраслаў Васільевіч!

На пачатку 1971 года Яраслаў Васільевіч захварэў, а 1 красавіка гэтага года яго не стала.

Ад смерці да паховінаў у нас час кароткі. Але, каб дастойна правесці ў апошнюю дарогу Яраслава Васільевіча хутка адгукнулася і з'ехалася многа ліцэйскіх выпускнікоў. Яны не дазволілі везці пакойніка на машыне, бо кожны з нас хацеў падставіць сваё плячо і рукі пад яго дамавіну. У пахавальным шэсці на месца вечнага спачыну ўсю трохкіламетровую дарогу на сваіх руках неслі любімага настаўніка і дырэктара былыя ліцэісты. Палымяную надмагільную прамову сказаў былы ліцэіст Мікалай Сідорскі з Сувалкаў.

**Васіль САКОЎСКІ**

# Гаспадарыў і спяваў

## Успаміны **Уладзіміра СУПРУНЮКА** з Рыбал


Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

### Заміж школы

Нарадзіўся я 14 снежня 1929 года ў Рыбалах і жыву тут цэлы час. У школу хадзіў я вельмі мала. Пры санацыі пайшоў у першы клас. Пасля прыйшлі саветы і так не было вельмі як. Мне мама не дазваляла вучыцца; гаварыла: трэба зарабляць. То я з маленства стаў пасвіць бydла, табуны, тут, у Рыбалах, зарабляючы на хлеб. Той заробак гаспадары плацілі нам збожжам. Пасвіў па штук васямнаццаць, трэба было кожны дзень з хлява выгнаць, бо гаспадары з хлявоў не выганялі. Рана гналі на поранкі. Ідзем па хлявах, выганяем кароў і гонім на пашу. А бывала і так, што як гаспадар пачуе як я набліжаюся, то ішоў да хлява і трымаў сваіх кароў, каб яны ў хляве апаражніліся, бо ж трэба было больш гною. І злосць бярэ, бо адны каровы ўжо пайшлі, а іншых трэба было яшчэ чакаць. Пасвілі да восьмай гадзіны. Гадзіннікаў тады мы не мелі. Пры санацыі хадзіў адзін такі аўтобус між Бельскам і Беластокам, чырвоны. Ім ніхто з нашых не ездзіў, ім лепшыя госці ездзілі. І калі той самаход праехаў, то мы ведалі, што ўжо восьмая гадзіна і пара гнаць кароў у хлявы. Гонім кароў на панадворкі, гаспадары іх паілі — мелі па дзве-тры каровы. Гаспадыні даілі, была гадзінка часу адпачынку і тады зноў гналі на пашу на цэлы дзень. Пашы былі вельмі слабыя, бо ж тады ніхто яшчэ не меў паняцця пра якое-небудзь падсыпванне раслін. Трава слаба расла, каровы былі змарнелыя. Іх цэлую зіму карміілі саломаю, змешанаю з сенам. Салома была аўсяная і абтрэсіны жытняй, што аставаліся ад простай саломы на кулікі; такі быў тады корм. Каровы былі так слабыя, што калі каторая ўлезла ў балота, страгла. І трэба было або гаспадара паведамляць, або самому выцягваць. Пашы былі каля двух кіламетраў ад вёскі, каля ракі Нарвы. Пасвіць стаў я калі мне было можа нейкіх дванаццаць гадоў, пры немцах; і за рускіх таксама ўжо пас. Пры саветах у школе была настаўніца Фаціна Наумюк, мясцовая, яна мяне вучыла. І трэба ўжо было крыху гаспадарыць. Да жніва з сярпамі бацькі гналі. А ў нас не было калёніяў, толькі *шахаўніца*. Палоскі па два кіламетры цягнуліся, а ежа якая ж тады была? Заб'ецца аднаго вепрука ў год і крыху таго соленага кумпяка возьмеш; і так цэлы час было. А зімою асаблівай работы не было; от, венік звязаць ці кашэль сплесці. Абуцца не было надта ў што; пры немцах у *дэрэвяніках* хадзілі, бо так было найцяплей. Пасля авечак гадавалі, стрыглі воўну і рабілі валёнкі; не ўсе людзі — рабілі тыя, што ўмелі. А *дэрэвянікі* былі найцяплейшыя, бо падэшва была тоўстая і не так холад да ног даходзіў; а зверху была шкура. Ногі былі ў шкарпэтках з воўны.

### Каплічка

Папячыцелем каплічкі на Петрашках быў Іван Садоўскі, маёй хрышчонай бацька, гэта пры ім была пастаўлена тая каплічка. А пра гэтую каплічку, што ў вёсцы пасярэдзіне, то мне помніцца, што вялі да яе коней, паіць, бо не было крыніцаў. На цэлую вёску былі дзве студні, абкладзеныя камянямі. І ўсе хадзілі да гэтай *каплачкі* за вадою. Тут быў добры *здрой* і была добрая вада. І на Тры Кролі свяцілі тут ваду. Штодзень, калі коней прыводзілі з поля, то вялі да гэтай каплачкі паіць. Бывала, так выбіралі ваду, што бракавала. Бо ж не толькі коней тут паілі, але і сабе трэба было вады тут набраць. А кароў то паблізу пашы паілі: ці то ў рэчцы, ці ў лузе; калісь былі лугі, а цяпер то ўжо ўсё стала інакш.


Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

■ Капліца ў Петрашках

### Чакалі рускіх

У 1939 годзе немцы ўступілі і дайшлі мо да Ваўкавыска, а пасля адступілі. Я прыгнаў кароў дадому і прыходзіць немец пад хату і кліча мяне: „Ком!” Бацькі кажуць: бяда, дзіця забірае. А тут, на *пругмені* самаход стаяў. Ён прывёў мяне да таго самахода і бярэ галандскі сыр; а ў нас ніхто і паняцця пра штось такое не меў. І дае мне той сыр, і цукеркі. Магчыма, што награбілі там на ўсходзе ў польскіх крамах і шкада было тое выкідаць, то раздавалі дзецям.

Мелі рускія прыйсці, то іх чакалі. Давай браму за царквой рабіць, рускіх вітаць, бо то ж свае! А тут пайшла чутка, што палякі б'юць тых, хто чакае рускіх і брамы ўзводзіць. Тут зноў страх: што рабіць? Брама зроблена: ці яе разбіраць, ці што?.. Але нічога, чакаем далей рускіх вітаць. Стаімо, ціха, нічога не чуваць. Едзе гасцінцам ад Паўлаў танкетка. Пад'язджае, выходзіць да яе солтыс Васіль Кнораз, з хлебам і соллю. Але ж ніхто з тае танкеткі не вылазіць. І так усе стаяць, танкетка і мы, і солтыс з хлебам; мо з паўгадзіны так стаялі. Але ж адкрыўся люк і вылазіць з таго *катла* вайсковы ў форме. А ў той танкетцы дзеці плачуць; ехаў ён сюды з цэлай сям'ёй. Узяў той хлеб, падзякаваў: „Знаете, как есть хлеб, соль да вода, то нет голода”. Усе задаволеныя: рускія прыйшлі. А ён падзякаваў, запытаў ці далёка ў Беласток, і з сям'ёй, з дзяцьмі паехаў у напрамку Беластока. Зараз, пасля нейкага часу сталі калхоз рабіць у Рыбалах. Назбіралася шмат такіх беднякоў і давай калхоз рабіць. Забралі найлепшую зямлю. А неўзабаве сталі на лесавывазку браць, ганялі ў Жэдню і Валілы. Толькі што бацька прыехаў з тае лесавывазкі, а ўжо на другі дзень падсолтыс стукае ў акно: „На лесавывазку зараз едзьце!” — „А я ж толькі што прыехаў, як жа так, то ж конь не вытрымае”, — кажа. Але не магло быць адмовы. Першамай, тут тыя беднякі ўжо партрэт Сталіна на плячах носяць і па сяле ходзяць. Сарганізавалі сельсавет, на плябаніі, а бацюшка ў суседа жыў, цераз дарогу, у маіх сваякоў, Салаўёў. Пачалі рабіць аэрадром каля Заблудава, дзесяць кіламетраў адсюль; трэба было норму камення туды навазіць ад Крыніцкіх; пачалі яго рабіць, але не ўспелі закончыць.

### Вайна

Пагналі быдла пад Нарву. Не было чуваць ніякіх выстралаў, але за паўкіламетра пабачылі выбух — снарад разарваўся. А на Наддатках, 3-4 кіламетры адсюль каля моста ў бок Бельска, было многа рускага войска, былі склады ружжа і амуніцыі. Пачалі снарады рвацца, то я давай уцякаць са сваім табуном. Была тут такая балотная рэчка, Д'якоўка называлася, я перагнаў кароў туды, цераз брод, а сам давай уцякаць. Уцёк я ў Паўлы, у крайнюю хату і там чакаў. Рускія адступалі, параненыя, пазавіватыя салдаты ішлі. Гаспадар той пытаў, чаму адступаюць; „Так, адступаем”, — адказвалі. А ў нас, у Рыбалах, вялікіх страт не было: згарэла адна клуня, снарады пашкодзілі некалькі хат і царкву на могілках.

А каля моста шмат людзей пабілі, спалілі танк, у ім два танкісты згарэлі. А танкаў тут было многа, рускія іх пакідалі, а самі ўцякалі. Ці то паліва не стала, ці што сапсавалася. І на тое месца, як крыху абціхла, мы ганялі тады кароў і туды хадзілі. Там трупы рускія ляжалі і ўсе былі голыя; хтось паздзіраў з іх вопратку; такая была тут галеча, што не было ў што апранацца і абувацца і з тых трупаў здзерлі, але невядома хто гэта зрабіў, можна было толькі здагадвацца.

А тыя танкі, што асталіся, пасля немцы забралі цягачамі. А мы ж тады, падросткі, улазілі ў тыя танкі і круцілі; і снарады там яшчэ былі пазапіхваныя. Некалькіх такіх маладзякоў пакалечылася. Мы, што пасвілі кароў, знайшлі карабін, аднеслі туды, дзе пасвілі. А патронаў то быў *стос* у лесе, склад. І калі загонім кароў, то адзін браў торбу, вайсковы рэчмяшок рускі на плечы, пойдзе ў лес, набярэ тых патронаў, прыняе і мы страляем. То пташку якую, ды і так было цікава пастраляць.

### Пад немцамі

Пры Польшчы я ў першы клас хадзіў. Пры немцах бацюшкі сын крыху па-нямецку ўмеў, то некалькі тыдняў вучыўся. Вучыў нас лічыць: айнс, цвай, драй, фір..., бо больш ніхто нічога не ведаў. І як прыйшлі немцы, то зараз тых усіх прадсядацеляў забралі ў Заблудаў; зараз жа ім данеслі, хто кім быў. Па-суседску з намі быў такі зацяты камуніст, Карчэўскі. Калі дзеці калядавалі, то ён забіраў гвязду і разбіваў. І шчыраваў, каб людзі ў царкву не хадзілі. Але мая мама вельмі любіла спяваць і спявала ў царкве. Бацюшкам у нас быў тады Крукоўскі. Я хіба таксама ўдаўся ў маму, бо вельмі люблю спеў. Шмат навучыўся вайсковых песень ад рускіх салдат; я лепш ад тых салдат па-руску навучыўся, як хто ў школе. Бо яны тут манеўры рабілі, на начлег прыходзілі.

І так вось мае маладыя гады прайшлі ў бядзе, усё бяда была: то таго няма, то таго не стае. Часта не хапала навесну хлеба; трэба было ісці да Ляшкоў, да багацейшых, і прасіць, каб далі той метр ці паўметра збожжа на хлеб. Малолі ў жорнах; бацька ўставаў рана, жорны былі ў сенях, і цэлы час круціў іх.

Тых камуністаў немцы бралі, арыштоўвалі. І хтось на Карчэўскага данёс. Прыйшлі да яго немцы, з трупімі галоўкамі, патрабавалі радыёпрыёмнік, бо такі меў быць у сельсавеце. Той Карчэўскі нічога не ведаў, бо яны можа нават таго радыёпрыёмніка і не мелі. Ну то ў каго ён можа быць? А можа ў іншага чалавека, Максім ён зваўся. То вядзі нас да яго. Завёў і пытае: „Максім, дзе тое радыё?” — „То ты, — кажа, — прыйшоў мяне пытацца?” То тыя немцы забралі Карчэўскага ў асобнае месца пад школу і білі аж да смерці. А адна суседка тое ўсё бачыла і так пералякалася, што пасля нейкага часу і сама памерла. А таго Максіма забралі ў Заблудаў і кудысь вывезлі.

Нямецкі пастарунак быў у школе, жандары жылі ў бацюшкавай хаце. Яны тады зрабілі побач бункер і ход у той бункер, каб хавацца туды ў выпадку нейкай небяспекі. Я нават сам сядзеў у тым бункеры, а сталася гэта так: хадзілі па варце. Я змерз, прыйшоў дахаты, прылёг і заснуў. А немцы ўжо прыйшлі па мяне, у акно стукаюць: „Што, спіш?” І мяне пасадзілі, але ненадоўга: калі ўначы мяне пасадзілі, то каля поўдня выпусцілі. І той бункер астаўся па сённяшні дзень.

### Птушкі

Бывала, летам пайду ў тое месца, дзе быў луг, дзе былі кнігаўкі, то выбіралі ад іх яйкі. А цяпер то і свайго палетка не пазнаю. Дзе рэчка Д'якоўка цякла, я знайшоў качынае гняздо, а ў ім мо з дванаццаць яек. Пускаеш тое яйка на ваду і калі стае, то заседжанае, а як лягае на бок, то чыстае. Паглядзеў, а яны заседжаныя. „От, — думаю, — чаму я іх раней не знайшоў”. Было ў нас вельмі многа варон. Каля Альшыны раслі вялікія таполі і там соткі гнёздаў было, то мы лазілі па тыя яйкі, і пасля або варылі, або жарылі. І елі. А сырых не елі. І кнігавак многа было; як пасвіш кароў, то аж на галаву сядалі, каб адвесці ад гнязда, але ж усё роўна гняздо знаходзілі. Мне раз, калі выбіраў воронячыя яйкі, давялося ўпасці з вольхі. То шчасце, што каля тае вольхі была такая калюжына, і я туды ўпаў і нічога не сталася; узяўся быў за галю і галя абламалася і я ўпаў. Лазілі на тыя дрэвы, дзе былі знізу голі і выбіралі тыя яйкі. Аднойчы я залез у адно такое месца, дзе многа яек было; то я ўжо задаволены, што столькі здабычы будзе. Я залез на тое дрэва, а мой брат Барыс вёз прагулкам гной у поле, і ўбачыў, што я там сяджу. Пад'ышоў і так далікатна пытае: „Ну, Валодзька, многа там яек?” — „Ой, — кажу, — Барыс, цэлу шапку набраў”. „Ну то добра, добра, то памаленьку злазь”. Я злез, а ён пояс расшпіліў, мяне за каўнер і тым паскам давай басаваць: „Я табе налажу, я табе дам!” Бо гэты промысел праводзілася так, каб бацькі не бачылі.

### Рускія

Пры немцах было ў нашай вёсцы некалькі рускіх, што паўцякалі з арміі, з палону. Яны сябравалі з рыбалаўскімі кавалерамі. То яны гракоў варылі, бо не надта ежы хапала. Я таксама прабаваў: добрае мяса з тых маладых гракоў. Калі яшчэ птушкі маладыя былі і вучыліся лётаць, то калі якая ўпала, то падбіралі. А пасля тут быў нямецкі пастарунак, то адзін жандар вельмі любіў хадзіць з вінтоўкай і страляць. І ён да таго дастраляўся, што ўсе птушкі паўцякалі з вёскі на могілкі, там за могілкамі хваіна расла. А той жандар штодзень браў вінтоўку і ішоў у Альшыну і страляў варон. А пасля рускія тайком падбіралі тых варон. Моста пільнавалі нямецкія вартаўнікі, якія час ад часу прыходзілі ў вёску. Аднойчы іду я на прыгуменне, а там у тычках ляжыць такі Барыс. Я пытаю, чаму ён там, а ён: „Молчы, молчы немцы ідут”. Разглядаюся: сапраўды немцы ідуць, але пайшлі далей. А той Барыс то быў такі абарвігалава: пайшоў за Нарву, за Плескі, а тады немцы набіралі моладзь у Германію. То ён у аднаго гаспадара згадзіўся ехаць заміж ягонага сына. І паехаў, праслаў нават ліст, што ўжо ў пятага гаспадара служыць; і гаварылі, што ён уцалеў.

(працяг будзе)

Запісаў **Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Не пакідайце ж „Нівы" нашай беластоцкай...

Патрэбна звярнуцца да гісторыкаў беларускага перыядычнага друку, каб яны далі даведку, якія беларускія газеты выходзілі больш чым паўстагоддзя. Напэўна іх можна пералічыць па пальцах адной рукі. А калі казаць пра выданні за межамі цяперашняй Рэспублікі Беларусь, то беластоцкая „Ніва", якая пачала выдавацца ў далёкім 1956 годзе, дакладна не будзе мець сабе роўных. Вядомая рэдакцыя і сваімі асобнымі выданнямі літаратурнага, гістарычнага, публіцыстычнага кірунку. Такіх кніжак у розныя гады выйшла ўжо больш пяцідзесяці.

Рэдакцыя беластоцкай „Нівы" даўно стала для нас, беларусаў Гарадзеншчыны, цёплым беларускім асяродкам, нягледзячы на тое, што бываць там даводзіцца толькі эпізадычна і наскокамі. Зычлівая з парогу, нібы родная цётка, спадарыня Галінка Рамашка, няўрымслівы і захоплены беларушчынай галоўны рэдактар Яўген Вапа, педантычны інтэлігент Віталь Луба, надзвычай працавіты камп'ютарнік Адам Паўлоўскі, які дасканала тэхнічна і творча апрацоўвае тэксты і фотаздымкі, заўсёды вострыя на позірк і слова Ганна Кандрацюк і Міра Лукша, вечны вандроўнік зямлі Падляшша Аляксандр Вярбіцкі — усё гэта такія розныя, але паяднаныя адной ідэяй, асобы сённяшняй „Нівы", якая адзначае ўжо свае 60-я ўгодкі і, дасць Бог, адзначыць і наступныя юбілеі. 60 гадоў — гэта ўжо век сапраўднай сталасці і мудрасці. Прыгадваю, як святкаваўся 50-гадовы юбілей. На ўрачыстасць тады прыехалі прадстаўнікі розных беларускіх грамадскіх і культурных асяродкаў. Прысутнічала на тым юбілеі і прэзідэнт Рады БНР Івонка Сурвіла. Памятаю, як запытаўся ў яе, ці даўно яна была ў Беластоку. Спадарыня Івонка ўсміхнулася і адказала: „Ну так, даўнавата не даводзілася тут бываць, апошні раз у 1944 годзе".

„Ніва" — асацыятыўна гэта ралля, сяўба, збор ураджаю. Невыпадкова, што ў розныя гістарычныя эпохі было так шмат беларускамоўных выданняў, звязаных з гэтым — „Наша ніва", „Сяўбіт", „Араты", „Саха", „Калосьсе", „Рунь"... Нездарма паэты бралі псеўданімы Якуб Колас, Ян Збажына...

Сённяшняя беластоцкая „Ніва" — гэта ўжо не „прысяга над крывавымі разорамі" — гэта ўрадлівая глеба, на якой вырасла, захавалася і выхавалася некалькі пакаленняў беларусаў. Сённяшняя „Ніва" — гэта паўнавартасны збор спелага насення, гэта тыя парасткі, якія закаласіліся жыватворным словам і далі хлеб. Безумоўна, што многія старыя праблемы беларусаў, як Падляшша, так і ўвогуле, застаюцца да сёння невырашальнымі, найперш таму, што ў сённяшняй беларускай дзяржаве вельмі мала беларускага. Гэта бяда, але ж верым, што „старадаўняй крывіцкай Пагоні не разбіць, не спыніць, не стрымаць!".

Для мяне асабіста „Ніва" стала другой газетай, пасля гарадзенскай „Пагоні", у якой даваліся і пашчасціла друкавацца такі працяглы час. Ва ўмовах, калі былі знішчаны гарадзенскія незалежныя перыядычныя выданні, беластоцкая „Ніва" стала той друкаванай пляцоўкай, якая дазволіла спачатку светлай памяці Зміцеру Кісялю, а потым і мне з Віктарам Сазонавым рэгулярна дзяліцца з чытачамі па абодва бакі мяжы сваім бачаннем падзей у Беларусі і свеце, а таксама прадставіць пэўныя беларускія каштоўнасці і з'явы. Калі б не „Ніва", напэўна не было б і маёй кніжкі „Беларускае золата". Плённа друкуецца на старонках „Нівы" шмат гадоў і слонімскі пладавіты краязнавец Сяргей Чыгрын, з'яўляюцца артыкулы вядомай літаратуразнаўцы Алы Петрушкевіч, перыядычна друкуюцца допісы іншых аўтараў з Гарадзеншчыны. Выйшаў шэраг кніжак, якія адлюстроўваюць гістарычную повязь Гарадзеншчыны і Беласточчыны, супольныя літаратурныя традыцыі.

„Ніва" — гэта ўніверсальная беларуская газета, яна адрасаваная не толькі дарослым, але і дзецям, зважаючы на пастаянныя старонкі выпуску „Зоркі". „Ніва" — своеасаблівы масток паміж беларусамі метраполіі і беларусамі далёкага Захаду. І адтуль і адтуль у рэдакцыю перыядычна прыходзяць лісты, а многія матэрыялы даюць уяўленне аб сітуацыі з беларушчынай у розных краінах свету. „Ніва" — гэта і вяртанне мноства забытых, альбо зусім невядомых імён мінуўшчыны з нябыту. „Ніва" — гэта сапраўднае, поўнае і яскравае адлюстраванне жыцця беларусаў Падляшша, пра якое могуць даведацца іншыя беларусы свету. „Ніва" — гэта адно з нямногіх выданняў, дзе можна выказаць сваю думку, не зважаючы на так званую палітказэктнасць, якая ёсць насамрэч псеўдакарэктнасцю. І разам з тым — гэта стваральнае выданне, скіраванае на любоў да свайго.

У пачатку 1990-х гадоў, калі прыйшоў найлепшы час для Беларусі, „Ніва" ў Беларусі прадавалася ў афіцыйных кіёсках, потым усталяваўся антыбеларускі рэжым, які ўвёў рэестр дазволеных выданняў, куды беларуская газета з-за мяжы не ўвайшла. Пасля гэтага час „Ніва" ішла ў Беларусь праз звычайную паштовую перасылку, пакуль такую з'яву не перапынілі пільныя ідэалагічныя цэнзары, што фільтруюць карэспандэнцыю. Здараліся за гэты час і кур'ёзныя гісторыі. Прыкладам тая, калі соткі нумароў „крамольнай" газеты забралі ў свісклацкага актывіста, светлай памяці Віктара Дзясіцыка, на мяжы, а крыху пазней выставілі гэтыя ж нумары на продаж у Вялікай Берасьтавіцы ў мясцовым універмагу як канфіскаваны тавар.

„Ніва" праз дзесяцігоддзі перажывала нападкі розных нядобразычліўцаў. У чым яе толькі не вінавацілі: і ў апалагетыцы камуністычных ідэй, і ў сепаратызме, і нават у растраце фінансавых сродкаў. З-за апошняга ўжо ў наш час рэдакцыя перажыла нават судовы працэс. На знак салідарнасці тады ў Беласток таксама прыязджалі прадстаўнікі грамадска-палітычных структур з Беларусі. Урэшце высветлілася для ўсіх, што нямэтна не было патрачана аніводнай златоўкі. „Ніва" захавала сваё добрае імя, таму што яна ва ўсе часы захоўвала роднае беларускае слова, развівала і шанавала сваё, бараніла і ашчадна зберагала нацыянальнае.

І так хочацца, адрасуючыся да насельнікаў Падляшша беларускага паходжання, адвольна перафразаваць класіка літаратуры: „Не пакідайце ж „Нівы" нашай беластоцкай, каб не ўмёрлі!".

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

*(даклад быў прачытаны ў час юбілею 60-годдзя «Нівы», 26 лістапада 2016 г.)*




Ледзьве не самым папулярным сярод беларускіх медыяў у Польшчы з'яўляецца цяпер Радыё Рацыя. За сваё амаль 20-гадовае існаванне радыёстанцыя мела як узлёты ў дзейнасці, так і падзенні. Так, у сярэдзіне першага дзесяцігоддзя новага стагоддзя данае радыё не гучала. Пра гэта, дарэчы, пісалася ў „Ніве" ад 15 лютага 2004 года ў такім жа самым артыкуле пра сайт Рацыі, які тады месціўся па адрасе www.racyja.net. „Няпоўныя два гады як замоўкла адзіная ў Польшчы радыёстанцыя нацыянальнай меншасці. Шкада, але жыццё працягваецца, і хто ведае, можа і адродзіцца Радыё Рацыя, а таксама беластоцкая яго студыя", — выказваў спадзеў аўтар гэтых радкоў. І гэты спадзеў спраўдзіўся — пазыўныя Радыё Рацыі ўжо больш за 10 гадоў у эфіры. Праўда, яе сайт месціцца па іншым адрасе — http://www.racyja.com.

Выява яго галоўнай старонкі непазнавальна адрозніваецца ад папярэдняга. Змянілася ўсё, пачынаючы ад лагатыпа да функцыяналу. Па вялікім рахунку, гэтыя змены ў многім адлюстроўваюць змены ў сайтабудаўніцтве, што адбыліся цягам прайшоўшых паўтара дзясятка гадоў новага тысячагоддзя.

Першае, што кідаецца ў вочы на галоўнай старонцы, гэта той матэрыял, які ўладальнікі сайта палічылі за найважнейшы. Ён аздоблены найбуйнейшым здымкам. З правага боку — яшчэ тры паведамленні, што ўвайшлі ў топ-ліст навін Рацыі. Увогуле, навіны, пра якія распавядае радыё — спрэс тыя, што гучаць ва ўсёй беларускай медыя-прасторы. Гэта сведчыць пра тое, што радыёстанцыя трымае руку на пульсе сучаснага жыцця беларускай дзяржавы.

Не застаюцца ў баку і навіны, датычныя Польшчы. Так, у рубрыцы „Сумежжа" карыстальнік знойдзе пададзеную па-беларуску інфармацыю пра падзеі, так ці інакш звязаныя з жыццём беларускай меншасці ў польскай краіне, а таксама пра польска-беларускія кантакты.

Назвы іншых тэматычных рубрык — „Палітыка", „Грамадства", „Эканоміка", „Культура", „Спорт", „Вандроўкі" — гавораць самі за сябе, але наяўнасць апошняй прыдае сайту адметнасць. У „Вандроўках" месцяцца расповеды і фотаздымкі з разнастайных месцаў, дзе пабывалі журналісты, зрабіўшыя гэтыя нататкі для Рацыі. Не кожнае радыё можа пахваліцца такімі матэрыяламі. Тым больш, што дзеніdзе сярод тэкстава-фатаграфічнага кантэнту сустракаюцца і відэасюжэты.

З ліпеня 2006 года Радыё Рацыя кругласутачна вяшчае ў інтэрнэце. Каб пачуць, аб чым яно гаворыць зараз, дастаткова клікнуць на спасылку „Рацыя online" у правым верхнім вугле галоўнай старонкі. А вось каб пазнаёміцца з сеткай вяшчання і перадачамі, трэба зазірнуць на старонку „Радыё", выйсце на якую месціцца сярод выйсцяў да рубрык.

Гэтая старонка, а дакладней яе падрубрыка „Слухайце нас", змяшчае найбольш важную інфармацыю пра радыё. Адтуль можна даведацца, што яно ахоплівае ўсё польска-беларускае памежжа на хвалях 98,1 FM (Беласток, Гродна і навакольныя гарады) і 99,2 FM (Брэст, Белая-Падляшская і ваколіцы). „Нашы слухачы гэта актыўныя людзі, арыентаваныя на прафесійнае развіццё, зацікаўленыя тым, што адбываецца ў рэгіёне, у якім яны жывуць, а таксама выклікамі, якія ставіць перад імі сучасны свет", — упэўнены журналісты Радыё Рацыя.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Спяваў на 16 мовах, але быў заўсёды беларусам

# 35 гадоў з дня смерці Міхася Забэйды-Суміцкага



Выдатны беларускі спявак Міхась Забэйда-Суміцкі нарадзіўся 14 чэрвеня 1900 г. Дакладнае месца нараджэння невядомае. Сам ён расказваў, што напэўна ў адной з трох вёсак — Шэйпічы (цяпер Пружанскі раён), Несцеравічы (Свіслацкі) ці Падароск (Ваўкавыскі). Ахрышчаны ў Сядзельніцкай царкве. Двайное прозвішча ўзяў ужо ў сталым веку ад бацькі Івана Забэйды і маці Аляксандры Суміцкай. Дзяцей у сям'і было сямёра, але выжылі толькі Міхась, брат Валодзя памёр ад сухотаў у 22 гады. Калі Міхалу было паўтара года, памёр бацька. Гадоў з 8-мі Міхась пачаў працаваць у панскім маёнтку. Скончыў Зельзінскую аднакласную школу, потым двухкласнае царкоўна-прыходскае вучылішча ў Галоўчыцах. У 1914 г. паступіў у Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Праз год у час вайны яна эвакуявалася ў Смаленск, скончыў яе ў 1918 г. і паехаў працаваць у Сібір. Жыў каля Барнаула, ствараў хоры і драматычныя гурткі.

У 1920 г. апынуўся ў Харбіне, дзе пачаў вучыцца музыцы. У 1929 г. паспяхова скончыў юрыдычны факультэт Харбінскага расейскага ўніверсітэта. Аднак жыць без спеваў не змог і, замест паступіць у асістэнтуру, стаў салістам Харбінскай оперы. За тры гады ў Харбінскай оперы выканаў 15 класічных партый, прычым нязменна спяваў на мове арыгінала. Працаваў яшчэ і ў школе.

У 1932 г. пераехаў у Італію — у Мілан. Вучыўся ў маэстра Фэрнанда Карпі, які раней канкураваў з Карузам і іншымі славутасцямі. Паспяхова выступаў у Міланскай оперы, на сцэне „Ля-Скала". Але ў гэты час спявак атрымаў з Шэйпіч вестку, што ягоная маці, з якой ён не бачыўся 16 гадоў, моцна хварэе і хоча яго бачыць. Так у 1935 г. ён пераязджае ў Заходнюю Беларусь. Цягам двух гадоў выступае ў беларускіх гарадах, па ўсёй Польшчы і ў суседніх краінах. Яго першы канцэрт з нагоды прыезду на бацькаўшчыну адбыўся ў Ружанах. У канцэрце сярод класічных твораў прагучала і беларуская калыханка.

На 1935-1936 гады заключыў кантракт з Познаньскім оперным тэатрам. Канфлікт там паўстаў на глебе нацыянальнага пытання: Міхась Забэйда-Суміцкі ніяк не жадаў называць сябе вялікім польскім спеваком, прызнаючы толькі адно права — быць беларусам. На другі год спявак ад далейшага супрацоўніцтва з тэатрам адмовіўся і пераехаў у Варшаву. У 1936 г. прэзентацыі класічнага беларускага рэпертуару адбыліся у культурнай сталіцы Вільні па запрашэнні Рыгора Шырмы. З 1937 г. Забэйда працаваў салістам на Варшаўскім радыё. Пасля бамбардавання гітлераўцамі Варшавы быў кантужаны. З 1940 г. — саліст Народнага тэатра ў Празе. Змушаны быў канцэртаваць, не маючы сродкаў да жыцця. Пазней яшчэ выкладаў спевы ў музычнай акадэміі. У 1963 г. канцэртаваў у розных гарадах Беларусі. У 1968 г. запісаў грамплацінку з беларускімі народнымі песнямі. Меў выключны, вельмі прыгожага тэмбру голас, яркую сцэнічную знешнасць, акцёрскі талент. Спяваў на 16 мовах, а цягам аднаго канцэрта нярэдка выконваў песні на дзесяці мовах, прычым ніколі не дазваляў сабе зазіраць у тэксты.

Цэлы час марыў вярнуцца ў Беларусь, хацеў дажыць век на роднай зямлі. Але саветы не дазволілі. Памёр у Празе 21 снежня 1981 г. Пахаваны на Альшанскіх могілках. На магіле помнік з надпісам на чэшскай і беларускай мовах. Свой багаты архіў Забэйда-Суміцкі разам з бібліятэкаю паводле запавету пакінуў Беларусі. У гонар славутага спевака названа вуліца ў Маладзечне.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Маміна зорка

Сумныя і вясёлыя вершы, апавяданні, казкі, цікавае інтэрв'ю з бабуляй-суседкай дасылаюць на Святочны літаратурны конкурс, арганізаваны школьнай бібліятэкай у Крынках вучні той жа школы. Як арганізатарка конкурсу вялікую ўвагу звяртаю на іх самастойнасць. Ёсць магчымасць пакарыстацца прафесійнымі кансультацыямі, у ходзе якіх высвятляю ім гістарычна-культурную спецыфіку роднай мясцовасці, падказваю адпаведную літаратуру, дапамагаю развіваць думкі і папраўляць памылкі. Вашай увазе прапаную працу пяцікласніцы Уршулі Янкевіч, члена, можна сказаць ветэрана, беларускага калектыву „Заранка".

**Першая зорка ў краіне Вялікіх Мазурскіх азёр**

Мая мама Ася Янкевіч нарадзілася вельмі далёка, на тэрыторыі колішняй Прусіі, у горадзе Рэшаль. Гадавалася на берагах мазурскіх азёр. Іх назва ўзялася ад мазуроў — народа, які жыў там спакон вякоў. Была ў іх свая мова, песні, традыцыі і евангельскі касцёл, званы кірхай. Пасля Другой сусветнай вайны мазуроў прымусілі пакінуць сваю зямлю і падацца ў бежанства ў Нямеччыну. Іх месца занялі, у асноўным, палякі, украінцы і беларусы. Сярод пасяленцаў немалую частку складалі жыхары гміны Крынкі. Маіх прадзедаў Яна і Лёдзю накіравалі да сям'і, якая ў вайну дапамагала яўрэям. Хавала іх перад праследаваннямі гітлераўцаў. У выніку самім трэба было хавацца ад, можна сказаць, сваіх, прытым ва ўласнай хаце. Дапамаглі ім у гэтым, менавіта мае прадзеды.

Мама жыве цяпер у Крынках, але яе сэрца засталося там, на вялікіх Мазурскіх азёрах. Ніколі не забудзе сваіх дзядоў і супольна з імі праведзеных вігілій.

Асабліва запамятала смак печаных бабуляй на пліце лазанкаў. Цэлая сям'я збіралася ў дзядоў, каб сустракаць нараджэнне Хрыста.

Унукі смяяліся, калі дзед уваходзіў у хату з ялінкай, сапраўднай, пахучай лесам. Абсыпаны снегам выглядаў як зімовы гномік. Тадышнія зімы былі багатыя на снег і мароз. Весела было таксама ў час упрыгожвання ялінкі. Бабуля вельмі даражыла і шанавала рэчы, якія пакінулі ёй гаспадары гэтай хаты. Мама па сёння ўзгадвае нямецкія ёлачныя цацкі. Кожны год бабуля выцягвала іх з драўлянай, размаляванай кветкамі каробкі.

У Крынках тады пра такія прыгожасці нават і не марылі. Фарфоравыя птушкі, анёлкі, рознакаляровыя, бліскучыя шкляныя шары. На ёлцы запальвалі васковыя, тоненькія свечачкі на металёвых жабках. Хаця прабабуля ўжо памерла, мама ўпэўненая, што гэтыя цацкі яшчэ жывуць. Ляжаць на гарышчы ў сваёй казачнай каробцы.

Абавязкам унучат было, між іншым, падрыхтаванне святочнага стала. Да вячэры сядалі ўбачыўшы на небе першую зорку. Вельмі хацелася есці, бо цэлы дзень каштавалі толькі печаных на пліце падпломыкаў. Бабуля рыхтавала іх напярэдадні вігіліі. Вячэралі ў атмасферы ветлівасці і весялосці. На стале было шмат свежай рыбы, злоўленай дзедам і дзядзькам Стасікам. Смажылі і пяклі яе ў чыгунных гаршках у кафлянай печы. На Мазурах не было куцці ні аўсянага кісялю. Быў затое кісель з садавіны — кампот згушчаны жэлацінам. Падавалі яго ў нямецкіх, маленькіх, фарфоравых чашачках.

Дзед асабіста пільнаваў, каб кожны папрабаваў усіх страў і каб кісель, які падавалі апошнім, быў спажыты да апошняй лыжкі.

Пасля дзеці гулялі ў мяч, уласнаручна пашыты дзедам са свінога пузыра, начыненага гарохам. Гэтую гульню пераняло галасістае груканне ў акно. Гэта ішоў святы Мікалай з падарункамі. Кожны год прыносіў ён самыя лепшыя падаркі ў вёсцы. Гэта была заслуга не столькі яго, як цёткі-прадаўшчыцы ў вясковай краме, г.зв. спулдзельні. Прыносіла дахаты цэлую свежую пастаўку кубікаў, паяцыкаў і лялек. А зноў цёця Ванда, якая працавала на торуньскай фабрыцы цацак, прывозіла аўтамабілі на батарэйкі і акардэоны. Мікалай не аддаваў падарункаў задарма. Трэба было сказаць вершык, праспяваць песеньку. Як свет светам, заўсёды быў верш „Хто ты такі, / Паляк малы", а калі ідзе пра песню, то выключна „Ёлка прыгожа як лес". А пад ёлкай апрача падарункаў былі яшчэ калядкі, прытым не з магнітафона, а ўжывую.

А яшчэ абавязковая пастэрка ў касцёле тры кіламетры за вёскай. Ішлі туды пехатою. Замерзлы снег рыпеў пад нагамі. Але ніхто не мёрз. Разагравала сямейнае цяпло. І гэтае цяпло мама здолела перавезці ў Крынкі, быццам віфліемскае святло. Няхай яно ніколі не згасне.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Справядлівы гараскоп на 2017 год

**Баран (22.03. — 20.04.)** Сатурн запануе над тваімі эмоцыямі, а ты адчуеш унутранае ўпарадкаванне. Увойдзеш у новы, больш творчы этап у прафесійным і фінансавым плане, таксама ў духоўным. Кар'ера пусціць парасткі вясной. Зможаш стаць лідарам. Упарадкуеш з поспехам шмат спраў. Не ўкладвай зашмат у няпэўнае знаёмства. Хутчэй вернецца здароўе. Пільнуй дыету. Шмат спраў высветліцца і паявіцца ў іншым ракурсе. Шчаслівыя дні: 5.03., 6.04., 10.07., 1.09., 25.11., 1.12.

**Бык (21.04. — 21.05.)** Зможаш здзейсніць штосьці вельмі важнае. Шанцы на развой, лепшую пасаду ці іншую добрую змену. Будуць нават самі па сабе адбывацца рэчы, якія дававядуць цябе да поспеху. Можаш пачаць жыць на сваім. Трапныя рашэнні пры вострай інтуіцыі. Здзейсніш малыя і вялікія мары, паедзеш у падарожжа. У падарожжы магчыма важнае мерапрыемства, якое давядзе да важнага пералому ў тваім жыцці У пачуццях вялікія жарсці, якія могуць пахаваць бар'еры. Вялікая вітальная энергія, магчымасці вялікага высілку. Шчаслівыя дні: 9.01., 16.03., 27.06., 29.08., 1.10., 13.12.

**Блізняты (22.05. — 22.06.)** Зоркі падтрымаюць усе твае мерапрыемствы. Разлічышся з працай, праверыш планы і амбіцыі. Засяродзішся на новых праблемах і высветліш старыя непаразуменні. Пасля смела пачынай новыя інтарэсы і інвестыцыі — удасца на 100%! Тэмп здарэнняў павялічыцца, здзейсніш неспадзяваныя мэты, дзякуючы сяброўскім адносінам з кіраўніцтвам. Пазбягай падазроных прапаноў і людзей, якія абяцаюць табе залатыя горы. Добра псіхічна і фізічна, будзеш ззяць красой. Ветлівасць людзей, моцная воля. Паспрабуй удзельнічаць нетрадыцыйна. Шмат заданняў і выклікаў, але з усім справішся. Шчаслівыя дні: 28.02., 19.03., 1.04., 30.08., 14.09., 24.11.

**Рак (23.06. — 23.07.)** Не будзеш наракаць на нуду. Новыя сяброўствы. Магчымая змена месца працы. Можаш смела рэалізаваць новыя планы, але не спяшайся, не рызыкуй! Слухай сваю інтуіцыю! Будзеш ззяць красой, усе цябе ўбачаць. Магчымы пачатак новага кахання; будзь памяркоўным. Настрой будзе часта змяняцца. Думай рацыянальна. Павер ва ўласныя сілы і таленты. Старайся засяроджвацца на адной мэце. Не рань словамі. У снежні можаш пачаць новы этап кар'еры. Шчаслівыя дні: 3.01., 19.03., 24.06., 22.07., 12.10., 5.12.

**Леў (24.07. — 23.08.)** Узрасце твой давер да ўласных магчымасцей. Паявяцца новыя магчымасці здабыцця грошай. Не азірайся на іншых, смела рэалізуй свае планы. Пакажы ініцыятыву ў фінансавай сферы. Старыя планы раптам стануць рэальнымі. Асабліва летам чакаюць цябе шчаслівыя здарэнні. Прыхавай неспадзяваныя заробкі на горшую гадзіну. Паляпшэнне атмасферы ў пары, пераадоленне старых канфліктаў ды жаляў і прэтэнзій. Добрае здароўе і настрой. У другой палове года чакае цябе шмат рашэнняў, добра ўсё абдумай. У кастрычніку навучышся самалячэння. Шчаслівыя дні: 12.03., 17.05., 15.06., 23.10., 6.11., 30.12.

**Дзева (24.08. — 23.09.)** Спачатку можаш быць знеахвочаны і адчуваць што быццам бы ўвесь свет супраць цябе. Калі хочаш пабагацець, патрэбна будзе цяжкая праца, самадысцыпліна, цярплівасць, а і абмежаванне ў выдатках. Магчымы прафесійны поспех і канец праблем з грашыма. Будуць карысныя змены ў тваёй фірме. Можаш знайсці новую працу — ад восені, з радасцю і добрымі грашыма. Будзеш у цэнтры зацікаўлення, але сардэчныя справы могуць быць складаныя. Можаш парваць некаторыя адносіны. Добрая форма і вялікая сіла (неператрэніруйся). Шчаслівыя дні: 21.01., 17.04., 26.05., 8.08., 4.11., 1.12.

**Шалі (24.09. — 23.10.)** Можа трэба будзе адкінуць усё тое, што ты рабіў і пачаць усё ад пачатку. Будуць у прафесіі цікавыя задумы і новыя нагоды. Карысныя новыя знаёмствы. Ідзе вельмі добры час для паляпшэння сітуацыі ў матэрыяльнай сферы. Можаш стаць кіраўніком, можа будзеш праводзіць рэформы. У рэалізацыі планаў будзеш мець шчасце і ў перспектыве вялікія карысці. Вучыся. Паглыбленне старых кантактаў, магчымае сужэнства. Многа сілы, ахвота змяніць нешта ў сабе і ў жыллі. Палепшыцца здароўе. Шчаслівыя дні: 6.03., 3.05., 14.06., 17.09., 28.10., 7.11.

**Скарпіён (24.10. — 22.11.)** Уцячэш ад руціны і лепш складзеш шмат спраў. Вырастуць табе проста крылы ў кар'еры. Лёс спрыяе — прынясе шмат нагод, каб зззяць і выправіць стан фінансаў. Падтрымка ў рэалізацыі творчых праектаў. Пры выкарыстанні новай тэхнікі дасягнеш вялікіх рэзультатаў. Восенню добры час на інтарэсы, асабліва за мяжой або ў фірме з замежным капіталам. Можаш з поспехам зайграць у латарэю. Добра было б выбрацца ў далёкае падарожжа — будзе карысна і цікава. Кампанейская актыўнасць. Успыхнуць прыгаслыя пачуцці. У жніўні падпішаш дамову вельмі важную для будучыні. Шчаслівыя дні: 8.02., 17.04., 11.06., 19.09., 1.11., 12.12.

**Стралец (23.11. — 22.12.)** Будзеш вырашаць хутка, падводзіць прафесійныя дасягненні. Калі праца не прыносіла табе карысці, зменіш яе на новую, без асаблівых стараннаў з твайго боку. Новая праца ці пасада прынясе табе шмат прыемнасцей. Інвестуй толькі ў пэўныя мерапрыемствы. Карысны выезд у прафесійных справах. Збярэш багаты плён ад сваёй працы. Летам шматабяцальныя кампанейскія планы могуць цябе спакусіць да таго, што забудзеш пра асцярожнасць ці развагу. Арганізм хутка аднаўляецца, многа сілы, узмоцніцца таксама твая нервовая сістэма. Не сустракайся з негатыўна думаючымі людзьмі. Шчаслівыя дні: 11.01., 13.03., 6.07., 19.08., 5.10., 27.12.

**Казярог (23.12. — 20.01.)** Абдумай планы на будучыню. Адкрыюцца перад табою новыя перспектывы. На працы будзе перыяд замяшання і няпэўнасці, будзеш мусіў рашыць, што для цябе важнае. Старайся не быць ападыктычным і цяжкім у супрацоўніцтве. Будзе шмат выдаткаў, крэдыты бяры асцярожна. Казярогі звязаныя з мастацтвам і крэатыўнымі прафесіямі здабудуць прэстыж і папулярнасць ды ствараць штосьці незвычайнае. Зачаруеш шмат каго. Шыкуйся на змены ў пачуццях. Больш увагі прысвяці свайму выгляду і красе. Будзеш уражлівы на пачуцці іншых. Дбай аб свой пазваночнік. Шчаслівыя дні: 4.01., 18.04., 10.06., 7.09., 23.10., 28.12.

**Вадалей (21.01. — 19.02.)** Энергія Юпітэра падмацуе цябе ў рашэннях і выпрастае сцежку тваёй кар'еры. Год поўны надзеі на лепшую будучыню. Будзеш салідна матываваны ў працы. Знакамітае здароўе, добрая фізічная форма. Мноства спрыяльных момантаў для кар'еры. Тое, чаго чакаў ты доўга, трапіць табе проста ў рукі! Магчымы нейкі выйгрыш, а выдаткі, нават большыя, звернуцца. Карысныя змены. Кожны рух, звязаны з працай, прынясе табе немалыя прыбыткі. Асабліва вясна і лета — перыяд прыбыткаў, атрыманых, дзякуючы падказцы ці дапамозе блізкага сябра. Добры год і ў сферы пачуццяў. Людзі будуць цябе любіць. Добра з псіхікай і фізічным здароўем, але задбай аб зубы. Шчаслівыя дні: 20.03., 2.04., 15.05., 22.08., 4.11., 30.11.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** Амбітныя мэты і заданні. Патрэба экспансіўнага дзеяння, да ўсяго зможаш дабіцца — і ў прафесіі, і ў фінансах. Калі не маеш ашчаднасці, сродкаў табе хопіць. Але не раскідвайся грашыма! Абсалютна не бяры пазык! Прытрымай грошы да канца года або і пачатку 2018. Вельмі рамантычны настрой. Самотная Рыба будзе шукаць вялікага кахання — калі натрапіш на адпаведную асобу, можа яна адмяніць твае жыццё; інтуіцыя цябе не падвядзе. Будзеш прамяніцца цяплом і ветлівасцю. Можаш знайсці іншую сцежку жыцця; візуалізуй сваё будучае шчасце. Спраўна можаш сесці на дыету, пазбыцца благіх звычак. Шчаслівыя дні: 6.01., 15.02., 21.05., 24.08., 9.10., 31.12.

Агата АРЛЯНСКАЯ

# Адгаданка

**1.** дакумент патрэбны для перасячэння польска-беларускай граніцы, **2.** тэрыторыя паміж дзвюма рэкамі, **3.** салодкая ежа з тушанай морквы з... мусам, **4.** найглыбейшае возера ў свеце, **5.** левы прыток Дуная ў Славакіі з... нітам, **6.** падставоўка або гімназія, **7.** публічнае абмеркаванне спрэчнай справы, **8.** горад на рэчцы Лідзея між Гродкам і Маладзечнам, **9.** эфіраносная расліна з моцным пахам і горкім смакам (*Artemisia absinthium*).

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | 2 | | | |
| | | | | 3 | | | | | |
| | | 4 | | 5 | | | | | |
| | | | | | | 6 | | | |
| | | | 7 | | | | 8 | 9 | |

**Адказ на адгаданку з 49 нумара**

Бой, вар, воз, гусак, два, сесія, чай, час.

Рашэнне: **Свой час ягадзе, свой час баравіку**. Кніжныя ўзнагароды высылаем **Уладзіміру Цілюльку** з Саколкі і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 11 000 egz.

# У палескай глыбінцы (66)



■ Сям'я Мартынюкоў, фота з архіва Косці Кірылюка

У сям'і Галі і Міхайла Мартынюкоў адзінаццаць сыноў. У прыпрыпяцкіх Вэтлах, мясціне з мяшчанскімі традыцыямі, дзе каля дзвюх тысяч жыхароў, гавораць пра іх з найбольшым прызнаннем.

— Гэта ў нашым сяле не вялікая навіна, — Міхайла, пяцідзесяцігадовы бацька сям'і зводзіць усё на зямлю. — У нас так ужо прынята, каб у хаце былі свае памочнікі. Чым больш, тым лепш...

Мартынюкі не рэкардсмены, калі ідзе пра лік дзяцей. У Вэтлах ёсць сям'я, у якой сямнаццаць — адзінаццаць сыноў і шэсць дачушак. Іх бацьку ўжо за восемдзесят.

— І гэта надта дружная, харошая сям'я, — адзначае Міхайла. Яны — сваякі па лініі жонкі.

— Вы, мабыць, штось *знаеце,* што ў вас адны хлопцы? — пытаю.

— А што мы *знаем?* Тое што ўсе! — смяецца Галя. — Мы спадзяваліся, што наступнае дзіцятка можа будзе дзяўчынкай. А тут зноў хлопчык. То думалі, можа наступнае будзе дзяўчынкай...

* * *

У час калі я завітала ў хату Мартынюкоў, сям'я якраз вярнулася з поля. На возе ляжалі неразгружаныя мяшкі з бульбай. Ніхто не прыкідваўся стомленым. Старэйшыя хлопцы ажыўлена спрачаліся ў сваім пакоі. А наймалодшыя, падшпаркі Валодзік і Сашка, круціліся ля маміных спадніцы, якая што і раз галубіла іх да сябе, ветліва папракала і аднначасова рыхтавала абед. У цэлым закалоце адчувалася мацярынская радасць.

— Калі ў нас якая работа, то хлопцы ўжо самі ведаюць, што ім трэба рабіць. Не трэба іх заганяць да працы, — кажа Міхайла.

Сям'я жыве з зямлі. Сёлета пасадзілі больш за гектар бульбы, пасеялі збожжа, заклалі агарод. У хлявах два быкі, тры каровы і пяць свіней. Бо ж з дзяржаўнай пенсіі не пракорміш такой дружыны. А так хапае. Ёсць хлеб і да хлеба. Ёсць з чым адправіць хлопцаў у дарогу, падмацаваць іх харчамі. Бо ж найстарэйшыя ўжо выйшлі з хаты, зарабляюць на свае патрэбы. Пятро, першародны, ужо жанаты. Ён — выпускнік гістарычнага факультэта, пабываў на вайне, а зараз працуе на пагранзаставе ў Ягадзіне.

— Нас ратуе яшчэ «чарнобыльская зона», — кажа Міхайла. — Няма тут фармальных абмежаванняў на зямлю. Колькі асвоіш, столькі маеш. Не трэба плаціць падаткаў, пенсійных складчын. Людзі, звычайна паробяць год-два ў адным месцы, пасля пераходзяць на іншае поле. Важна, каб не ўваходзіць сабе ў дарогу, каб было разуменне. Бо ж зямлі тут хапае, для ўсіх пад дастаткам.

Вярнуцца да традыцыйнага гаспадарання прымусіла эканамічная сітуацыя. Калі ў пачатку дзевяностых разляцеўся калгас, людзі не апусцілі рук. Кожны думаў як выжыць, як пракарміць дзяцей.

— Тады зноў навучыліся пячы хлеб, — успамінае Мартынюк. — Раней усе куплялі. Хлеб дастаўлялі на верталёце, кожны дзень. А зараз? Колькі ідзе хлеба на тыдзень? Кожны тыдзень Галя выпякае шэсць боханаў хлеба з белай мукі.

Белы хлеб пачалі есці ў Вэтлах пры Хрушчове, раней нават каравай выпякалі з жытнёвай мукі.

* * *

Вэтлы згадваюцца ўжо ў XIII стагоддзі як гарадок на Прыпяці. Праз нейкі час мясціна карысталася магдэбургскімі правамі. Сёння тут знаходзіцца лякарня, праваслаўная царква, збор пяцідзясятнікаў, пагранзастава, сельсавет, школа, пошта, магазіны і бары.

Жыццё паскорыла тэмп у 1974 годзе, калі да мясціны стаў курсаваць верталёт. За адзін рубель можна было даляцець у Любашоў, а за тры ў Пінск і Луцк. Вялікай папулярнасцю карысталіся маршруты ў беларускія гарады Брэст і Драгічын. Таксама на верталёце прылятала кіно, якое высвятлялі па нядзелях у клубе.

— У той час не было добрай дарогі, — прыгадвае Міхайла. — Праз значную частку года, калі паўнаводнымі станавіліся ручаі і прытокі, вельмі цяжка было дабрацца ў раённы Любашоў. Мясцовасць, больш як з Украінай, была скамунікаваная з Беларуссю. Нават калгаснае малако вазілі прадаваць па той бок мяжы. Якраз у савецкія гады вэтлаўцы пачалі масава з'язджаць на пастаяннае жыхарства ў суседнюю Беларусь. Пры калгасах у памежнай зоне ўзнікалі *вэтлаўскія* кварталы.



■ Вэтлы ад загароддзя



■ Бацькі і бабуля з наймалодшымі Уладзікам і Сашкам

Гісторыя Галі і Міхайла таксама звязана з Беларуссю. Бацькі Галі першапачаткова жылі на хутары на беларускім баку. У Вэтлы пераехалі жыць пасля вайны. Таму сёння ў Мартынюкоў сваякі па ўсёй Беларусі: у Пінску, Мінску, Брэсце.

Галя таксама падалася на вучобу ў Брэст і там закончыла кравецкую школу. Адразу паступіла на працу. Усё паказвала, што астанецца жыць у горадзе. З Міхайлам пазнаёмілася яшчэ ў дзіцячыя гады. Ён на пяць гадоў старэйшы, выглядзеў яе яшчэ ў школе. Пасля разам хадзілі на танцы ў клуб. Ад пачатку ведаў, што гэта адзіная дзяўчына, з якой хацеў бы заснаваць сям'ю.

— А як вам удалося намовіць ужо гарадскую дзяўчыну, каб вярнулася з вялікага Брэста ў сяло? — пытаю.

— Не ведаю, як гэта ўдалося, — смяецца Міхайла, — пэўна пасмакавалі ёй пранікі, якія ёй прыносіў на спатканне.

* * *

Міхайла ў пятнаццаць гадоў страціў бацьку. Утапіўся ў час купання ў Прыпяці. Яму, найстарэйшаму хлопцу, трэба было клапаціцца пра лёс сям'і. У яго хаце таксама было адзінаццаць дзяцей.

— У нас вялікая радня і яны не дазволілі нам гібець. Усе дзядзькі і родзічы дапамагалі. І мы неяк справіліся з перашкодамі.

Міхайла спачатку пачаў працаваць эканамістам у калгасе. Праз нейкі час займаўся ідэалагічнай працай пры сельсавеце. Жаніўся ў дваццаць пяць гадоў. Адразу пасля вяселля стаў жыць у сваёй хаце. Маці асталася жыць у драўлянай хатцы, у глыбі панадворка. Але на крок не пакідала сям'і.

— Яна як першая на нагах у нашай сям'і, — кажа Галя. — Пакуль мы прачнемся, яна ўжо ўправіцца ў гаспадарцы. А пасля сняданку разам з мужчынамі ідзе да работы. Яна чытае газеты, ведае што адбываецца на сяле.

Вядома, бабуля была вельмі рада пазнаёміцца, распытаць пра Польшчу. Якраз адзін яе ўнук паехаў у Варшаву, каб падзарабіць. Нягледзячы на восемдзесят гадоў, на яе галаве я не прыкмеціла ні аднаго сівога воласа. Ад рання яна працавала разам з сынам і хлопцамі пры бульбе. Мяне ўразіла не толькі бадзёрасць старажылкі. У бабулі, як аказалася, ужо восемдзесят унукаў і праўнукаў.

— Памятаеце ўсе імёны ўнукаў? — пытаю.

— А як жа!

Дапамогай у гэтай няпростай задачы паслужылі хрысціянскія святы. Палова хлопцаў атрымалі ў час хрышчэння імёны сваіх нябесных заступнікаў:

— Спачатку мы строілі дурня і самі прыдумвалі імёны, — жартуе Міхайла, — а пасля здагадаліся і пачалі хрысціць як калісь, па календары...

На Палессі такая звычка што ў кумы запрашаюць адных і тых самых людзей. Вось іх дзесяцёра хлапцоў ахрысціла адна жанчына. Не абы хто, галавіха сельсавета. Зараз, калі Вялікдзень, яна заязджае пад хату машынай з мяшком падарункаў.

— А кум таксама адзін?

— Не было ўжо такіх герояў — кажа Міхайла.

(праця́г будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 52